



# Рэгіянальная газета. Rh.by

rg_rhby
rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

26 сакавіка 2021 года №13 (1352)

18+




## Як дзве хвалі каронавіруса паўплывалі на працу ў розных прафесіях

старонка 20

## У Маладзечне даюць бясплатныя кантэйнеры для смецця

старонка 3

## Гісторыя палка Корпуса аховы памежжа «Вілейка»

старонка 17

# «Беларусь можа зрабіць эканамічны рывок дзякуючы мазгам»

Старшакласнікі па ўсім рэгіёне вызначаюцца, куды паступаць. Мы папрасілі паразважаць над пытаннем адукацыі маладзечанца Віталя Алейніка, які навучаўся ў вышэйшых навучальных установах Беларусі, Расіі, Польшчы і Італіі. Што з гэтага атрымалася, чытайце на старонках

18-19

Фота Настассі УТКІНАЙ.

ISSN 1991–7155




Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by



# Чаму Смаргонь – горад, дзе жанчыны хочуць зрабіць сваё жыццё лепшым

## Як працавала «Школа прававой адукацыі для жанчын і дзяўчат»

**«Веру, што ў кожнай з жанчын, якая прыйшла ў праект разам са мной, будуць адбывацца якасныя змены. І я дакладна ведаю, што, толькі прыклаўшы высілкі, можна нечага дасягнуць», – такі допіс пакінула на сваёй старонцы ў сацсетках удзельніца беларуска-фінскага праекта «Школа прававой адукацыі» Вольга Прусаловіч. А вынікі праекта, пра які пісала жанчына, днямі падвялі ў Смаргоні.**



Юлія Шпакоўская (злева) і Алена Фрэнкель віншуюць з заканчэннем праекта ўдзельніцу Лілію Грыбанаву (у цэнтры).

Фота забяспечана Юліяй ШПАКОЎСКАЙ.

СМАРГОНЬ

Праект дзейнічаў ад снежня 2019 года да сакавіка 2021 і фінансаваўся Міністэрствам замежных спраў Фінляндыі. А з беларускага боку ладзіўся Смаргонскім раённым аддзяленнем ГА «Беларуская асацыяцыя маладых хрысціянскіх жанчын». А тэрытарыяльны цэнтр як партнёр прапанаваў памяшканне для рэалізацыі.

### Чаму вучылі жанчын у праекце

– Гэта першы мой досвед супрацоўніцтва і з краінай, і з арганізацыяй. Камфортна было працаваць і мне, і жанчынам-удзельніцам праекта. Праўда, ад красавіка 2020 года з-за пандэміі праект часова прыпынілі. Аднавілі ў жніўні, – расказвае кіраўніца праекта **Юлія Шпакоўская**.

Юлія прызнаецца: распусціўшы групу ў красавіку, хвалявалася, што не збярэ жанчын, якія прыйшлі на праект у сакавіку. Паўгода – немалы тэрмін. Аднак у жніўні ўсё атрымалася.

– Удзельніцы – 15 жанчын розных прафесій і ўзростаў – былі ў розных сітуацыях. Аднак кожную з іх тэма гвалту ў сям'і неяк закранула, – працягвае знаёміць з праектам Юлія. – А бывала і такое: жанчына прыходзіць у праект і кажа, што ў яе ўсё нармальна, а праблемы мае яе знаёмая.

> **Калі ж з ёй пачыналі працаваць нашы псіхолагі, аказвалася, што ўсё ж праблемы менавіта ў той жанчыны, якая звярнулася.**

Мэтай праекта стала фарміраванне ў жанчын і дзяўчат прававой культуры па пытаннях палавой дыскрымінацыі, гендарнай няроўнасці, гвалту. Для яе дасягнення арганізатары ладзілі фокус-групы, сумесныя з прадстаўнікамі міліцыі, медыцыны, грамадскіх арганізацый, пракуратуры, праводзілі сацыялагічныя апытанні на тэму гвалту ў сям'і, выпускалі друкаваную тэматычную прадукцыю. Для ўдзельніц праекта спецыялісты ладзілі трэнінгі і інфармацыйныя сустрэчы.

– Эксперты-прафесіяналы працавалі з жанчынамі вельмі сумленна. У выніку тыя, хто прыходзіў з перакананнем тыпу «навошта мне гэта гендарная роўнасць?», у канцы выходзілі з разуменнем усёй важнасці пытання, – прыгадвае Юлія.

Падчас васьмі адукацыйных трэнінгаў жанчыны павысілі ўзровень прававых, фінансавых ведаў, а таксама набылі навыкі самаабароны. Трэнер-юрыст змагла пераканаць жанчын у тым, што шлюбны дагавор – гэта нармальная практыка, калі абодва партнёры абараняюць сябе. А выкладчыца трэнінгу па асертыўных паводзінах данесла да жанчын, як пераканаўча сказаць «не», адстаяць сваё меркаванне і дабіцца пастаўленай мэты.

### Што ў выніку

Яшчэ на пачатку рэалізацыі праекта заўважылі недапрацоўкі ў сістэме міжведамаснага ўзаемадзеяння па аказанні дапамогі тым, хто сутыкнуўся з гвалтам. І каб спецыялістам было лягчэй працаваць з гэтай няпростай тэмай, стварылі дапаможнік – «Алгарытм дзеянняў пры аказанні комплекснай дапамогі пацярпелым ад гвалту». Аднак не толькі ён стаў вынікам праекта. Яшчэ – сабраная бібліятэка з кнігамі па псіхалогіі, гендарнай роўнасці, фінансавай адукацыі, вялікі ахоп людзей у інтэрнэце, шчырыя пасты ўдзельніц у сацсетках, дзе смаргонкі адкрыта расказалі пра свае праблемы і пра ўдзел у праекце.

– Падчас планавання праекта мы думалі данесці інфармацыю аб праблеме гвалту ў сям'і да трохсот чалавек, а ў выніку атрымалася больш за сем тысяч. Як ні дзіўна, гэта станоўчы вынік пандэміі – праз яе людзі больш, чым звычайна, былі ў анлайне, – дзеліцца Юлія.

Арганізатары праекта сцвярджаюць: сёння жанчыны Смаргоншчыны не лічаць сямейны гвалт нормай, ведаюць, да якіх спецыялістаў звяртацца, калі ўзнікаюць праблемы ў сям'і, інфармаваныя пра тое, што ў раёне дзейнічае крызісны пакой.



Дзякуючы Міністэрству замежных спраў Фінляндыі партнёры праекта атрымалі падарункі. На фота Юлія Шпакоўская (справа) узнагароджвае дырэктара Смаргонскага тэрытарыяльнага цэнтра Марыну Нікалайчык.

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

### Янне Хейсканен: Смаргонь – горад, у якім жанчыны хочуць палепшыць сваё жыццё

Дарадца-пасланнік, глава аддзялення пасольства Фінляндыі Янне Хейсканен у гутарцы з карэспандэнтам «Рэгіянальнай газеты» адзначыў, што, праводзячы конкурс праектаў у 2019 годзе, Міністэрства замежных спраў Фінляндыі з шасцідзесяці прадстаўленых абрала толькі два. І сярод гэтых двух быў праект са Смаргоні.

– Праект Смаргоні быў блізкі нам тым, што яго асноўная задача – падтрымка жанчын. Таксама ў праекце адразу бачылася ўстойлівасць і доўгатэрміновасць, – расказаў Янне.

Спадар Хейсканен першы раз быў у Смаргоні. Адзначыў, што для яго гэта пазітыўны беларускі горад, у якім шмат актыўных жанчын, што жадаюць мяняць сваё жыццё ў лепшы бок.

...Дарэчы, выпускны «Школы прававой адукацыі», што правялі ў канцы лютага, 15 удзельніц з кіраўніцай праекта адзначылі з песнямі, танцамі, падарункамі і... дзіцячым шампанскім.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# У Маладзечне даюць бясплатныя кантэйнеры для смецця

**У прыватным сектары ў Маладзечне ўласнікі жылля могуць атрымаць кантэйнеры для смецця. Галоўная ўмова – сарціроўка гэтага смецця.**



Так выглядаюць кантэйнеры, што выдаюць жыхарам.

Маладзечанскі «Камунальнік» закупіў 3994 кантэйнеры для цвёрдых камунальных адходаў і другасных матэрыяльных рэсурсаў. Цяпер гэтыя кантэйнеры ставяць на 82 вуліцах у раёне Старога Места. У далейшым такая ініцыятыва ахопіць увесь сектар індывідуальнай забудовы ў Маладзечне.

### Як атрымаць кантэйнер

Уласнікі прыватных дамоў павінны самі звярнуцца ў «Камунальнік», каб ім далі кантэйнеры. Для гэтага трэба прыйсці па адрасе: вул. Велікасельская, 38-в, кабінет №3. Час працы: панядзелак-пятніца ад 08:00 да 17:00 (абед – 13:00-14:00). Тэлефон для даведак – 73-19-17.

Забраць кантэйнеры можна самому альбо папрасіць аб дапамозе супрацоўнікаў «Камунальніка». Іх выдаюць бясплатна.

### Як сартаваць смецце

Уласніку выдаецца два кантэйнеры розных колераў, каб у строгай адпаведнасці сартаваць смецце. Самі кантэйнеры ўмяшчаюць у сябе 120 літраў. У адзін кантэйнер можна класці толькі цвёрдыя камунальныя адходы (гэта адходы жыццядзейнасці), а ў другі – другасныя матэрыяльныя рэсурсы (пластык, пластыкавыя бутэлькі, тарнае шкло, макулатуру).

У кожнага з кантэйнераў будзе асобны дзень для вывазу смецця. І для кожнай з вуліц ён таксама асобны. Пра гэта паведаміць спецыяліст, які будзе выдаваць кантэйнеры, гэту інфармацыю можна ўдакладніць на сайце «Камунальніка» альбо па тэлефоне для даведак.

Рашэнне аб выдзяленні кантэйнераў для паасобнага збору цвёрдых камунальных адходаў прынялі на пасяджэнні навукова-тэхнічнага савета Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Закупка кантэйнераў робіцца са сродкаў дзяржаўнай установы «Аператар другасных матэрыяльных рэсурсаў» і ажыццяўляецца «Камунальнікам» у некалькі этапаў.

**Кантэйнеры выдаюць:** вул. Астрожскага, вул. Першамайская, зав. Першамайскі, зав. Мінскі, вул. Алаізы Пашкевіч, вул. Велікодная, вул. Калядная, вул. В. Харужай, зав. Паўднёвы, зав. Піянерскі, праезд Піянерскі, вул. Гарадоцкая, вул. Прамысловая, 1-ы зав. Прамысловы, 2-і зав. Прамысловы, вул. Міцкевіча, вул. П. Броўкі, зав. Міцкевіча, вул. Агінскага, вул. Радашковіцкая, вул. Міхалёнка, вул. Усходняя, 1-ы праезд Камунальны, 2-і праезд Камунальны, 3-і праезд Камунальны, вул. Тургенева, праезд Савецкі, праезд Пушкіна, зав. Пушкіна, 2-і праезд Пушкіна, вул. М. Казея, вул. Кальцавая, зав. Кальцавы, вул. Чэхава, 1-ы зав. Чэхава, 2-і зав. Чэхава, праезд Чэхава, вул. Я. Лёсіка, вул. Новая, вул. Меліярацыйная, вул. Гідратэхнікаў, 6-ы праезд Красненскі, 7-ы праезд Красненскі, зав. Дружны, зав. Выверскі, вул. Святочная, вул. Сучасная, вул. Ляшковіча, вул. Германа, зав. Бярозавы, вул. Вербная, вул. Мірная, зав. Цюрлёўскі, вул. Снежная, вул. Светлая, вул. Б.Хмяльніцкага, вул. Прыазёрная, вул. Вясенняя, зав. Вясенні, вул. Сонечная, зав. Сонечны, зав. Хажоўскі, праезд Хажоўскі, вул. Народная, вул. Катэджная, вул. Мінская, зав. Красненскі, 2-і праезд Красненскі, 3-і праезд Красненскі, 4-ы праезд Красненскі, 5-ы праезд Красненскі, вул. Братоў Канаржэўскіх, вул. Выверская, вул. Гарэцкага, вул. Дружная, вул. Заслаўская, вул. Зорная, вул. Красненская, вул. Гастэлы, вул. Пакроўская, вул. Славянская.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 18.03 | 25.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5971 | **2.6272** |
| Еўра | 3.0896 | **3.1082** |
| Злоты, 10 | 6.7153 | **6.7193** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.5535 | **3.4512** |
| Грыўня, 100 | 9.3707 | **9.4253** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 17.03 | 24.03 |
| Еўра | 3.0400/3.1400 | **3.0800/3.1500** |
| Долар ЗША | 2.5500/2.6300 | **2.6000/2.6550** |
| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
| ПРАДУКТЫ | 17.03 | 24.03 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 20,71 | **23,99** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,40 | **7,87** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | **9,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,90 | **5,00** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,40 | **4,50** |
| Селядзец, 1 кг | 6,20 | **6,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 18,80 | **18,90** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,15 | **2,30** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 3,90 | **4,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,70 | **1,70** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 2,00 | **2,00** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,40 | **2,60** |
| Агуркі, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Баклажаны, 1 кг | 6,80 | **5,50** |
| Бульба, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Буракі, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 1,00 | **0,75** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 3,80 | **3,50** |
| Морква, 1 кг | 1,00 | **1,20** |
| Памідоры, 1 кг | 4,50 | **4,95** |
| Памідоры чэры, 1 кг | – | **7,90** |
| Перац, 1 кг | 7,50 | **7,80** |
| Радыс, пучок | 2,50 | **2,50** |
| Салата, пучок | 0,70 | **0,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Цыбуля-сявок, 1 кг | – | **6,50** |
| Часнок, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 6,90 | **5,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,50 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 3,69 | **2,90** |
| Вінаград, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Гранат, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Лімон, 1 кг | 3,90 | **4,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,90 | **3,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,30 | **2,30** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,70 | **1,70** |
| Масла, 1 кг | 18,00 | **18,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | **4,00** |

## Ад 1 мая пенсіянерам будзе зніжка на праезд у электрычцы

Пенсіянеры ад 1 мая змогуць ездзіць на электрычках за паўцаны.

Кожны год у перыяд сезонных сельскагаспадарчых работ, ад 1 мая да 31 кастрычніка, грамадзяне, якія дасягнулі агульнаўстаноўленага пенсійнага ўзросту, маюць права на зніжку 50% ад кошту праезду ў цягніках рэгіянальных ліній эканамкласа. Гэта прадугледжана ўказам №176 ад 29 красавіка 2011 года «Аб дзяржаўнай падтрымцы пенсіянераў» (у рэдакцыі ад 6 ліпеня 2020 года).

**Для таго, каб купіць білет са зніжкай, трэба прад'явіць арыгінал пенсійнага пасведчання. Таксама гэты дакумент неабходна мець пры сабе падчас паездкі.**

Пры гэтым Беларуская чыгунка звяртае ўвагу, што такая льгота не прадугледжваецца пры праездзе ў цягніках рэгіянальных ліній бізнес-класа і міжрэгіянальных ліній (з нумараванымі месцамі), а таксама пры праездзе ў цягніках гарадскіх ліній.

Ільготныя праязныя дакументы пенсіянеры па ўзросце могуць аформіць у білетных касах, а таксама на сайце pass.rw.by, з дапамогай мабільнага прыкладання «БЧ. Мой цягнік» і праз тэрміналы самаабслугоўвання.

З улікам бягучай эпідэміялагічнай сітуацыі Беларуская чыгунка рэкамендуе выкарыстоўваць дыстанцыйныя каналы продажу.

**Паводле БелТА.**

## Крама «Меркурый» пераязджае ў іншы будынак

**ВІЛЕЙКА**

Пра гэта паведамілі ў аддзеле эканомікі Вілейскага райвыканкама.

Цяпер «Меркурый» размесціцца на другім паверсе ўніверсама «Вілія», дзе ўжо прадаюцца тавары для дзяцей.

А для былога будынка «Меркурыя» будуць шукаць арандатараў, адзначылі ў аддзеле.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Мужчына з нажом у пад’ездзе накінуўся на былую жонку

## Абараніць маці спрабаваў сын

МАЛАДЗЕЧНА

**Днямі ў міліцыю ад медыкаў хуткай дапамогі паступіла інфармацыя пра нажавое раненне ў 42-гадовай жанчыны. Інцыдэнт адбыўся на лесвічнай пляцоўцы ў пад’ездзе шматкватэрнага дома па вуліцы Будаўнікоў у Маладзечне.**

Калі першым нарадам на месца здарэння прыбылі супрацоўнікі патрульна-паставой службы міліцыі, жанчына была яшчэ ў свядомасці і паспела паведаміць, што на яе напаў былы муж, раней несудзімы 45-гадовы маладзечанец. А ў хуткім часе, пакуль аператыўнікі шукалі падазраванага, мужчына сам прыйшоў у міліцыю і прызнаўся ў злачынстве.


Фота zen.yandex.ru.

Былую жонку мужчына стукнуў спачатку кулаком, а пасля – нажом.

Па інфармацыі РАУС, у той вечар мужчына прыйшоў у госці да былой жонкі і сына, але ў кватэры нікога не было. Выходзячы з ліфта на першым паверсе, ён сустрэў жанчыну з дзіцем, якія вярталіся з басейна. Паміж бацькамі завязалася размова.

Гутарка дарослых хутка перарасла ў сварку. У ходзе канфлікту мужчына два разы ўдарыў суразмоўцу кулаком у галаву, яна ўпала на падлогу. Пасля чаго зламысік ударыў былую жонку некалькі разоў нажом у жыццёва важныя органы і знік у невядомым кірунку.

Разборка адбывалася на вачах у дзіцяці. Хлопчык спрабаваў дапамагчы маці, адбіваючы яе ад рук нападніка.

Параненую жанчыну забралі ў бальніцу. Яна ў рэанімацыі ў цяжкім стане. Па дадзеным факце Маладзечанскі РАСК узбудзіў крымінальную справу па часткі 1 артыкула 147 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь «Наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання», санкцыя якой прадугледжвае да васьмі гадоў пазбаўлення волі.

Згодна з экспертызай, мужчына знаходзіўся ў стане алкагольнага ап’янення. Медыцынскі агляд паказаў у яго арганізме больш за 1,8 праміле алкаголю. Растлумачыць свой учынак сам ён не змог. Меркаваную прыладу злачынства – нож – знайшлі ў кішэні ў мужчыны і канфіскавалі.

**Паводле РАУС Маладзечна.**

## Прыйшла прадавац адзенне ў вясковы дом і скрала трыста рублёў

ВІЛЕЙКА

Пра здарэнне, што адбылося 14 сакавіка ў вёсцы Сцюдзянец Хаценчыцкага сельсавета, расказаў намеснік начальніка РАУС **Мікалай Мягкоў**:

– 14 сакавіка каля паловы сёмай вечара жыхарка Сцюдзянца паведаміла, што незнаёмая жанчына скрала ў яе трыста рублёў. Калі міліцыянеры прыехалі на месца, даведаліся, што каля 15 гадзін у дом да 78-гадовай вяскоўкі прыйшла незнаёмая жанчына. Прапанавала купіць пасцельную бялізну і адзенне.

Па словах намесніка начальніка РАУС, гаспадыня пагадзілася купіць у незнаёмкі камплект пасцельнай бялізны, спартыўныя штаны і халат. Усё за 150 рублёў. Дастала з-пад падушкі слоік, дзе было пяцьсот рублёў, і папрасіла госцю адлічыць 150 рублёў, бо сама не магла гэта зрабіць з-за кепскага зроку. Незнаёмка ўзяла 150 рублёў за тавары, а пасля – яшчэ трыста. Астатнія 50 рублёў скруціла і паклала ў слоік, каб гаспадыня не заўважыла знікнення.

Прыкметы жанчыны, што падазраецца ў махлярстве: на выгляд 30-35 год, рост – 160-165 сантыметраў, чорныя, да плячэй, валасы.

Была апранутая ў чырвоную куртку, чорную спадніцу, карычневыя боты.

Міліцыя просіць, калі вам нешта вядома пра гэта злачынства, тэлефанаваць на 102.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## П’яны мужчына накінуўся на сужыцельніцу з відэльцам

МАЛАДЗЕЧНА

Позна ўвечары на лінію «102» у Маладзечанскі РАУС паступіў званок ад 44-гадовай жыхаркі Радашкавічаў. Яна скардзілася на агрэсіўныя паводзіны свайго сужыцельніка. Паводле яе слоў, мужчына прыйшоў дадому п’яны і пагражаў ёй распраўй.

Сама жанчына справіцца з ім не магла і звярнулася па дапамогу ў міліцыю. Па ўказаным адрасе прыбылі міліцыянеры, але да іх прыезду дэбашыр пакінуў жыллё.

Супрацоўнікі міліцыі сталі высвятляць абставіны здарэння. Аказалася, у той дзень каля 22 гадзін 44-гадовы мясцовы жыхар, вярнуўшыся дадому, на кухні застаў сужыцельніцу за вячэрай з былым мужам. Убачанае выклікала гнеў – і паміж сужыцелямі ўзнікла сварка.

У ходзе канфлікту нецвярозы схапіў са стала відэлец і прыставіў да шыі жанчыны, пагражаючы забіць. Пацярпелая змагла вырвацца і замкнуцца ў іншым пакоі, дзе праз акно вылезла на вуліцу і ўцякла, схаваўшыся непадалёк. Толькі калі сужыцель пакінуў падворак, жанчына вярнулася дадому і патэлефанавала ў міліцыю.

Міліцыянеры знайшлі і затрымалі фіганта. Дзеянням мужчыны далі правую ацэнку, пачалі крымінальную справу па артыкуле 186 КК Рэспублікі Беларусь, санкцыя якой прадугледжвае да двух гадоў пазбаўлення волі.

**Паводле РАУС Маладзечна.**

## Следчыя шукаюць сталую жанчыну

ВАЛОЖЫН

**Валожынскі аддзел Следчага камітэта шукае Яніну Целяжэвіч. Жанчына знікла яшчэ на пачатку студзеня, следчыя ўзбудзілі крымінальную справу.**



7 студзеня жанчына сышла з дому знаёмых у вёсцы Падбярэзь Валожынскага раёна. Дагэтуль яе месцазнаходжанне невядомае.

**Прыкметы:** каля 70-80 год, рост 155-160 см, валасы сівыя і кароткія, вочы карыя.

**Асаблівыя прыкметы:** надарваная мочка вуха, бародаўка на сярэднім пальцы правай рукі.

Калі ў вас ёсць інфармацыя пра месцазнаходжанне Яніны Целяжэвіч, звярніцеся ў Валожынскі РАУС па тэлефонах: **8-01772-55302**, **-54021** (дзяжурная часць); **8-029-6855302**, **8-029-5076698** (мабільныя тэлефоны); ці ў бліжэйшае аддзяленне міліцыі па тэлефоне **102**.

**Валожынскі РАСК.**

## У Цюрлях затрымалі п’янага кіроўцу

МАЛАДЗЕЧНА

16 сакавіка каля дзвюх гадзін ночы ў дзяжурную часць Маладзечанскага РАУС паступіла паведамленне пра нецвярозага кіроўцу «Нісана». Ён знаходзіўся непадалёк ад заправачнай станцыі ў Цюрлях.

Супрацоўнікі ДАІ выехалі на месца. Кіроўцу спынілі міліцыянеры. У яго былі прыкметы ап’янення. Ён грамадзянін Літвы і мае пасведчанне на права жыхарства ў Беларусі.

Мужчыну даставілі ў псіханеўралагічны дыспансер для агляду. Аказалася, што ў яго 2,44 праміле алкаголю ў выдыханым паветры. Ён сказаў, што піў гарэлку каля дзевяці вечара 15 сакавіка. Са слоў кіраўніка ўстановы, дзе працуе парушальнік, апошні зарэкамендаваў сябе са станоўчага боку. У дачыненні да яго склалі адміністрацыйны пратакол. Яму пагражае штраф да 200 базавых – да 5 800 рублёў.

**АДАІ Маладзечанскага РАУС.**

## За «п’янае» ДТЗ, у якім загінуў пасажыр, суд пакараў кіроўцу

МАЛАДЗЕЧНА

Прысуд – тры з паловай гады ў калоніі агульнага рэжыму і пазбаўленне правоў кіроўцы на пяць год.

Нагадаем, што летась, 22 лістапада, на аўтадарозе Літва-Шыпулічы 38-гадовы кіроўца «Пежо-306» не справіўся з кіраваннем, з’ехаў на левую па ходу руху ўзбочыну, наехаў на плот дома №88 у вёсцы Парэчча і перакуліўся. У выніку на месцы аварыі загінуў 58-гадовы пасажыр, жыхар вёскі Парэчча.

Кіроўца, жыхар вёскі Дубіна Валожынскага раёна, быў нецвярозы, пасажыр – не прышпілены.

Кіроўцу прызналі вінаватым у парушэнні правілаў дарожнага руху асобай у стане алкагольнага ап’янення, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека.

Суд таксама пастанавіў, каб вінаваты заплаціў пацярпеламу пяць тысяч рублёў як маральную шкоду.

**Паводле Вярхоўнага суда.**

## Мужчыну затрымалі за тое, што браў хабар

ВІЛЕЙКА

Пракуратура Вілейскага раёна падтрымала ў судзе дзяржаўнае абвінавачанне па крымінальнай справе ў дачыненні да Д. – галоўнага спецыяліста дзяржарганізацыі ў сферы тэхнічнага нагляду, якому інкрымінавалася атрыманне хабараў.

Як устанавілі падчас судовага разбору, Д. ад 2018 года да верасня 2020-га ў якасці хабару за спрыяльнае рашэнне пытанняў, якія ўваходзяць у яго кампетэнцыю, атрымліваў ад прадстаўнікоў суб’ектаў гаспадарання Маладзечанскага і Мядзельскага раёнаў будаўнічыя матэрыялы, аўтамабільнае паліва і прадукты харчавання.

Па сваіх службовых паўнамоцтвах абвінавачаны меў права праводзіць тэхнічны нагляд і правяраць якасць будаўніча-мантажных работ, матэрыялаў, канструкцый і абсталявання, правяраць іх адпаведнасць праектнай дакументацыі, наяўнасць і правільнасць тэхналагічнай дакументацыі.

Пры атрыманні чарговага хабару ў верасні 2020 года Д. затрымалі супрацоўнікі АБЭЗ Маладзечанскага РАУС. Усяго ўстаноўлена пяць эпізодаў яго супрацьпраўнай дзейнасці. Кошт прадметаў хабараў мяняўся ад 70 да 400 рублёў.

З улікам падзадзеных дзяржабвінаваўцам доказаў суд Вілейскага раёна пастанавіў у дачыненні да Д. абвінаваўчы прысуд. На падставе ч.1 і ч.2 арт.430 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь яму прызначылі пакаранне – тры гады пазбаўлення волі з адбываннем у папраўчай калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму са штрафам у памеры 300 базавых велічынь з пазбаўленнем права займаць пасады, звязаныя з выкананнем юрыдычна значных дзеянняў, тэрмінам на чатыры гады.

Прысуд у законную сілу не ўступіў, можа быць абскарджаны і апратэставаны ў апеляцыйным парадку.

**Паводле Генеральнай пракуратуры.**


У карагодзе.

# Як вясну не прагукаць

## У Вязынцы зладзілі традыцыйнае вясновае свята

МАЛАДЗЕЧНА

**– Пойдзем хутчэй. А то вясну прагукаем, – прыспешваюць адзін аднаго ўдзельнікі фальклорнага дзіцячага гурта, што прыехалі на Гуканне вясны ў Вязынку. І, адкусваючы ад печаных птушак галовы ды хвасты, лятуць у эпіцэнтр свята.**


Дзятва спявала вяснянкі.

Папяровыя птушкі. Заўсёдныя арэлі. На свята!

Я таксама бягу за імі на гару, што побач з домам Купалы, каб не прагукаць. А на гары жанчыны ўжо пачынаюць вяснянкі. І ляцiць над малой радзімай класіка дружны спеў.

Сёлетняе гуканне праходзіла па ранейшым сцэнарыі: беларускамоўнае асяроддзе, шмат людзей з фотаапаратамі, віктарыны ад «Аховы птушак Бацькаўшчыны», традыцыйныя спевы, вялізны, на ўсю тэрыторыю музея, карагод, гульні, танцы, гандаль беларускімі прысмакамі і напоямі, а таксама сувенірамі, аздобленымі партрэтамі Купалы ды Каліноўскага.

Па-ранейшаму кружылі над Вязынкай папяровыя птушкі і яркія стужкі, уздымаліся арэлі, прымацаваныя на вялізным дрэве. А з мінскай і маладзечанскай электрычак усё падыходзілі ды падыходзілі новыя ўдзельнікі.

Незвыклым сёлета быў хіба што снег. Ён шчодра ўслаў купалаўскія пагоркі і берагі ракі, але ўсё сыпаў і сыпаў яшчэ…


Штогод на вялікім дрэве ладзяць арэлі.

Гуканне вясны – старажытнае свята развітання з зімой і сустрэчы вясны. Мае язычніцкае паходжанне. Суправаджаецца абрадавымі вясновымі песнямі, карагодамі. Людзі заклікаюць вясну хутчэй прыйсці, радуюцца першаму вясноваму сонцу і праганяюць зіму.

Даследчыкі лічаць, што Гуканне вясны было найбольш уласцівае ўсходу Беларусі. У заходніх абласцях яно не было выразна акрэслена і злівалася з Масленіцай. Як і многія іншыя язычніцкія абрады, свята не мела канкрэтнай даты. Найчасцей святкаваць збіраліся на адкрытым месцы – горцы, беразе ракі, краі лесу ці нават даху хаты або лазні. Бо менавіта высокія месцы вясной першымі вызваляюцца ад снегу.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

# Пацярпелым ад гвалту дапамагаюць дзяржслужбы і грамадскія арганізацыі

СМАРГОНЬ

**Ад 2015 года ў Смаргоні працуе савет каардынацыі міжведамаснага ўзаемадзеяння па аказанні дапамогі пацярпелым ад гвалту ў сям'і. Яго стварылі мясцовыя ініцыятары, прадстаўнікі грамадскіх аб'яднанняў і дзяржструктур, якія ў сваёй працы сутыкаюцца з тэмай гвалту сям'і.**

Пра тое, як дзейнічае савет, карэспандэнту расказала яго старшыня **Марына Нікалайчык**.

– Шэсць год таму мы вырашылі, што будзе добра стварыць у нашым горадзе савет ведамстваў, у які б увайшлі зацікаўленыя прадстаўнікі дзяржслужбаў і грамадскіх арганізацый.

**Каб пасля кожнага выпадку сямейнага гвалту спецыялісты збіраліся і разглядалі сітуацыю. Узгадніўшы сваю ініцыятыву з намеснікам старшыні Смаргонскага райвыканкама па сацыяльнай рабоце, мы пачалі дзейнічаць, – расказвае суразмоўца.**

У савет увайшлі тэрытарыяльны цэнтр сацабслугоўвання насельніцтва, пракуратура, РАУС, ЦРБ, упраўленне адукацыі Смаргонскага райвыканкама і грамадскія арганізацыі.

Калі ў сям'і здараецца сітуацыя гвалту, савет збіраецца і вырашае, якім ведамствам трэба прыкласці высілкі, каб адпрацаваць кожны канкрэтны выпадак у сям'і і, калі магчыма, паспрыяць таму, каб больш такога не паўтаралася.

Калі патрэбная дапамога псіхолага, удзельнічае тэрытарыяльны цэнтр.

– Часам здараецца так, што ў цэнтр, да псіхолагаў, прыходзіць мама з дзіцем, якім пасля гвалту няма дзе жыць. Для такіх выпадкаў у нас ёсць крызісны пакой. Тут мы хаця б часова можам ізаляваць маму і дзяцей ад агрэсара, – працягвае Марына Вацлаваўна.

Калі трэба медыцынская дапамога, далучающа медыкі. Калі сітуацыя даходзіць да суда, падключаецца пракуратура.

– Пакуль праца ў нас наладжаная. Праўда, бываюць пытанні, якія зацягваюцца. Напрыклад, перанос крызіснага пакоя з сельскай мясцовасці ў горад. Бо калі маці з дзецьмі трапляюць у крызісны пакой, што знаходзіцца пакуль яшчэ за рысай горада, дзецям-школьнікам і дашкольнікам цяжка дабірацца ў школу і садок, – адзначае суразмоўца.

**Савет працуе як па факце гвалту, так і на прафілактыку. І па выніках кожнай канкрэтнай сітуацыі спецыялісты вызначаюць, чаму так адбылося, дзе былі слабыя месцы ў працы савета, у прафілактыцы.**

У тэрытарыяльным цэнтры ёсць аддзяленне сацыяльнай адаптацыі і рэабілітацыі. Тут псіхолагі працуюць якраз з тэмай гвалту ў сям'і. Сюды ж прыходзіць інфармаваная згода – дакумент, які запаўняюць па факце гвалту ў сям'і, дзе гэта адбылося.

Як гэта дзейнічае, таксама расказала старшыня савета:

– Напрыклад, здараецца крызісны выпадак у сям'і. Прыходзіць участковы і бачыць, што гэта не звычайны канфлікт, а гвалт. Тады ахвяры гвалту прапануюць запоўніць інфармаваную згоду. Тут пазначаецца, што ахвяра згодная, каб пра яе сітуацыю ведаў тэрытарыяльны цэнтр сацабслугоўвання, ЦРБ, работнікі РАУС, аддзела адукацыі і маглі на падставе гэтай згоды працаваць з ахвярай. Калі ахвяра адмаўляецца падпісаць такую згоду, то ніякую дапамогу мы ёй аказаць не можам.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03.** |
| | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16.** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Опель-Астра G, 2000 г.в., 1,7 TD, універсал. Т. МТС (8-029) 8547426.*

• Опель-Астра H, 2009 г.в., 1,4 бензін, універсал. Т. (8-029) 5647764.

• Дыскі жалезныя R14 (4x108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўтамабіль. Можна з дэфектамі. Т. (8-029) 8794563.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029) 6510099, (8-029) 7646646.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-033) 3631161, (8-029) 1236722.*

• Матацыкл К-650, МТ-9, К-750, запчасткі. Т. (8-033) 6791420.*

• Матацыкл у любым стане. Т. (8-029) 7587953.*

• Стары матацыкл, каляску да матацыкла, запчасткі. Т. (8-029) 6590477.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 5/5 (з тэхнічным паверхам). Агульная 71,4, жылая 43,1 (11,7/12,7/18,7), кухня – 8,1. Санвузел раздзельны, кладоўка, падвал. Т. (8-025) 7653611.*

• 4-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Міру, 5 паверх, добры рамонт. Цана па тэл. МТС (8-033) 3542356.*

• Дача ў Асінаўцы. Участак 10 сотак. 5 км ад Смаргоні. 50 м лес. Пладовыя дрэвы, кусты. Дом, хлеўчык, калодзеж, агароджа – сетка. Т. МТС (8-033) 3591382, (8-044) 5622655.*

• Дом 98 кв. м і 20 сотак прыватызаваных у в. Порса Вілейскага раёна. Т. (8-029) 1214671.*

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС.*

• Дом у в. Макаўе Вілейскага раёна. Т. МТС (8-029) 7677518.*

• Дом у вёсцы Пранчэйкава Маладзечанскага раёна з гаспабудовамі і ўчасткам. Т. (8-0176) 500359, (8-033)6690160.*

• Дом-дача ў Валожынскім раёне. Т, (8-029) 8771367.*

• Кватэра ў новабудоўлі Маладзечна. Т. (8-029) 9439184.*

• Участак у в. Чыжэвічы Вілейскага раёна, 15 сотак, вул. Чыжэвіцкая, 9-б. 500 м ад Вілейскага вадасховішча. Побач лес. Па вуліцы праведзены прыродны газ. Т. (8-029) 6686477.*

### КУПЛЮ

• Дом (лес, рэчка). Т. (8-029) 6511477.*

### ЗДАМ

• Гандлёвае памяшканне пл. 76 кв.м у Маладзечне па вул. Прытыцкага. Т. (8-029) 6046867, (8-029) 7648443.*

• У арэнду альбо прадам гандлёвае памяшканне ў Маладзечне па вул. Святаянскай, 75, пл. 370 кв. м, з рамонтам. ІП Заянчкоўскі І.С. УНП 691890017. Т. (8-029) 6278076.*

## СПАЧУВАННЕ

Паважаная **Марыя Васільеўна Ніканович!** Прыміце нашы шчырыя спачуванні з прычыны смерці мужа **Анатолія Васільевіча.**

**Сем'і Катковіч, Туманавы, Лемантовіч, Жук, Семіхініны, Байковы, Клімантовіч.**

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Дах пад ключ. Мантаж новага, замена старога. Матэрыялы. Дастаўка. Гарантыя. ІП Несцяровіч Я.А. УНП 691899504. Т. (8-029) 5580884,(8-029) 9382802.*

• Каркаснае будаўніцтва. Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Копка, чыстка, рамонт калодзежаў, каналізацыі, ацяплення пад ключ. ІП Гарэлікаў Д.А. УНП 591821956. Т. (8-029) 5201260.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, А (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

__Будматэрыялы, сантэхніка__

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.

__Бытавая тэхніка__

• Швейная машынка, падольская, 1986 г.в., электрычная. Т. (8-029)5334290.*

__Камп'ютары, TV, сродкі сувязі__

__Мэбля__

• Мэбля б/у. Халадзільнік, канапа, шафа, ложкі, кухня. Маладзечна. Т. (8-029) 8627521, (8-0176) 534791.*

__Іншае__

• Дзіцячыя вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Новы набор ветэрынарны анатамічны. Т. (8-033) 3738096, (8-0176) 542726.

• Сена. Т.А1 (8-029) 6870898.*

### КУПЛЮ

__Бытавую тэхніку__

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

__Жывёла, птушка, пчолы__

• Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.*

__Іншае__

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Цёскі любыя. Т. (8-029) 8794563.*

### МЯНЯЮ

• 4 пеўні (8 мес.) на 4 курыцы. Вёска Мілідаўшчына Смаргонскага раёна. Т. (8-044) 7438947.

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Шукаем сядзелку для пажылой ляжачай жанчыны. З пражываннем. Вілейскі раён. Умовы працы абмяркоўваюцца. Т. (8-029) 6575037.

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю работу па рамонце драўляных дамоў: замена ніжніх вянцоў, а таксама рамонт фундаментаў, дахаў. Т. (8-029) 8745410.*

• Шукаю работу па рамонце халадзільнікаў, маразільнікаў. Запраўка фрэонам. Т. (8-029) 3395974.*



**ПАДАЧА АБ'ЯЎ І РЭКЛАМЫ Ў БЛІЖЭЙШЫ НУМАР** «РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ» – **да 16:00 серады**

Аддзел рэкламы: (8-0176) **53-78-04** (тэл./факс), (8-029) **676-84-20, 573-28-47**

E-mail: **reklama@rh.by**

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| | | Вілейка | -01771, |
| Астравец | -01591, | Маладзечна | -0176, |
| Ашмяны | -01593, | Мядзел | -01797, |
| Валожын | -01772, | Смаргонь | -01592. |

# Дайджэст: У Беларусі трэніраваліся разганяць акцыі, у Іспаніі дазволілі эўтаназію

**Што важнага адбывалася ў Беларусі і свеце апошнім часам, прапануем прыгадаць з нашага агляду.**




Фота Susana Vera (Reuters).

**Падчас разгляду законапраекта каля іспанскага парламента сабраліся як прыхільнікі ўвядзення дазволу на эўтаназію, так і тыя, хто супраць такога рашэння.**

### У многіх краінах зноў расце колькасць выпадкаў каронавіруса

Як толькі свет спадзяецца, што перамога над пандэміяй блізка, зноў назіраецца рост захворванняў. Мінулым летам пісалі, што каронавірус хутка будзе пераможаны, аднак увосень пачалася другая хваля, якая ахапіла Еўропу і ЗША. Затым, калі пачаліся праграмы вакцынацыі, з'явіліся мутацыі каронавіруса, якія могуць зніжаць эфектыўнасць вакцын. На сёння ў Еўропе пачынаецца трэцяя хваля кавіду, якая вымушае ўрады краін зноў уводзіць абмежаванні.

### ДАІ пачынае рассылку «лістоў шчасця» за адсутнасць тэхагляду

Ад 1 сакавіка ў адпаведнасці з новым адміністрацыйным заканадаўствам прадугледжаная магчымасць прыцягнення ўласнікаў аўто да адказнасці за ўсе парушэнні супраць бяспекі руху і эксплуатацыі транспарту на падставе іх фіксацыі адмысловымі тэхнічнымі сродкамі, якія працуюць у аўтаматычным рэжыме. Акрамя фотафіксацыі перавышэння хуткасці і правілаў спынення/стаянкі, магчымае прыцягненне да адказнасці за кіраванне без тэхагляду. Камеры фіксуюць факт удзелу ў дарожным руху, распазнаюць рэгістрацыйны знак і звяраюць яго з базай дадзеных «Белтэхагляду» на наяўнасць дазволу на допуск да ўдзелу ў дарожным руху. Калі парушэнне зафіксаванае ўпершыню, уладальнік вызваляецца ад адміністрацыйнай адказнасці з вынясеннем яму папярэджання. У наступны раз ён атрымае штраф – палову базавай. Сёння гэта 14 рублёў 50 капеек.

### У Іспаніі дазволілі эўтаназію

Гэта шостая краіна ў свеце, дзе легалізавалі добраахвотны зыход з жыцця з дапамогай доктара. На такі крок дазволяць пайсці людзям, якія пакутуюць ад невылечных хвароб і цярпяць няспынны невыносны боль. Адпаведнае рашэнне прыняў іспанскі парламент 18 сакавіка. Міністр аховы здароўя назвала рашэнне важным крокам на шляху да прызнання правоў чалавека. Закон рыхтавалі тры гады. Чакаецца, што ён уступіць у сілу ў сярэдзіне чэрвеня. Эўтаназія таксама ўзаконеная або дазволеная ў Бельгіі, Калумбіі, Канадзе, Люксембургу і Нідэрландах. У Швейцарыі і некаторых штатах ЗША пацыентам дазваляюць самім прымаць смяротныя прэпараты пад наглядам доктара.

### У МУС трэніраваліся разганяць акцыі

Унутраныя войскі сумесна з іншымі падраздзяленнямі МУС правялі планавыя вучэнні і адпрацавалі супрацьдзеянне масавым беспарадкам. Афіцэры і салдаты трэніраваліся спыняць парушэнні і на шырокіх вуліцах, і ў дварах, адпрацавалі прымяненне спецыяльных сродкаў. Каментуючы вучэнні, намеснік міністра ўнутраных спраў Беларусі – камандуючы ўнутранымі войскамі **Мікалай Карпянкоў** заявіў, што «пратэсны рух практычна сышоў на нішто», але міліцыя будзе працаваць на апярэджанне.

– Калі яны і выйдуць дзесьці, скажам так, нейкімі сваімі дзясяткамі, праваахоўнікі гатовыя, праваахоўнікі ведаюць, хто яны такія, нам не трэба час разбірацца, што гэта за з'ява. Гэта абсалютныя ворагі нашай дзяржавы, нашага ладу, і мы з імі вельмі хутка разбяромся. Будзем нават старацца працаваць дзесьці на прэвентыўнае затрыманне, для таго, каб і гэтых спроб не было. А калі выйдуць, усё, што было, мы з вялікім задавальненнем паўторым, – заявіў Карпянкоў.

**МУС, economist.com, Радыё Свабода, СТБ.**

# ДАІ ладзіць акцыю «Бяспечныя канікулы»

**Ад 22 сакавіка да 4 красавіка на тэрыторыі Міншчыны ДАІ праводзіць комплекс мерапрыемстваў «Бяспечныя канікулы», якія накіраваныя на прафілактыку дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму ў перыяд вясновых канікулаў.**

МАЛАДЗЕЧНА

Дзяржаўтаінспекцыя сумесна з іншымі супрацоўнікамі міліцыі грамадскай бяспекі і прадстаўнікамі адукацыі ў рамках рэспубліканскай прафілактычнай акцыі з дзецьмі і дарослымі яшчэ раз агавораць важныя пытанні, якія тычацца правільных і бяспечных паводзін на дарозе, у аўтатранспарце, пазначэння флікерамі ў цёмны час, а таксама культуру паводзін і ўзаемапавагі паміж удзельнікамі дарожнага руху.

У Маладзечанскім раёне ад пачатку года зарэгістраваны тры дарожна-транспартныя здарэнні з удзелам непаўналетніх.

Паважаныя дарослыя, тлумачце дзецям, што, нават маючы перавагу на пешаходным пераходзе, пешаход абавязаны быць уважлівым, асцярожным, не адцягваць увагу пры пераходзе праезнай часткі. Ён абавязкова павінны глядзець па баках, спыніць усе размовы па мабільным тэлефоне і перастаць карыстацца навушнікамі, калі слухае якую-небудзь інфармацыю ці музыку.

На цяжар наступстваў дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам непаўналетніх пасажыраў уплывае тое, што шэраг дарослых пры перавозцы дзяцей усё ж грэбуюць аўтакрэсламі, бустарамі, спецыяльнымі падушкамі альбо перавозяць малалетніх дзяцей у дзіцячых утрымальных прыладах і не прышпільваюць іх.

ДАІ нагадвае, што за парушэнне правілаў перавозкі дзяцей у адпаведнасці з часткай 6 артыкула 18.13 Кодэкса аб адміністрацыйных парушэннях Рэспублікі Беларусь кіроўца атрымае штраф да чатырох базавых – да 116 рублёў. Як правільна перавозіць дзяцей, чытайце ў пункце 178 Правілаў дарожнага руху.

**АДАІ Маладзечна.**

# Смаргонцаў масава выклікалі ў міліцыю перад Днём Волі

**Перад Днём Волі, што традыцыйна адзначаецца 25 сакавіка, смаргонцаў масава выклікалі ў міліцыю на прафілактычныя гутаркі.**

23 сакавіка затрымалі трох мужчын – **Руслана Валюка**, **Сяргея Трая** і **Аляксандра Рукойця**.

**Мясцовыя жыхары расказалі, што Валюку прыйшла позва, але з аддзялення РАУС ён не выйшаў.**

Сваякам мужчыны паведамілі, што яго затрымалі па адміністрацыйнай справе да суда, аднак невядома, па якім артыкуле. Нагадаем, 18 лютага Руслана Валюка асудзілі на два гады «хіміі» за паклёп у дачыненні да мясцовых міліцыянераў.



Фота Ігара ПАЛЬЧЫНСКАГА

Руслана Валюка затрымалі на трое сутак.

**Аляксандра Рукойця затрымалі за пікетаванне ва ўласнай кватэры: падчас агляду яго жылля супрацоўнікі пабачылі бел-чырвона-белы сцяг на сцяне.**

Сяргея Трая затрымалі на працы. Мужчыны застаюцца ў ізалятары часовага ўтрымання.

22 і 24 сакавіка ў Смаргонскі РАУС на гутаркі выклікалі мясцовых жыхароў, пераважна жанчын. З імі праводзіў прафілактычныя гутаркі пракурор Смаргонскага раёна **Андрэй Клышэвіч**. Ён растлумачваў ім змены ў заканадаўстве – у Кодэксе аб адміністрацыйных правапарушэннях і Крымінальным кодэксе.

Каля 11 гадзін 24 сакавіка ля дома смаргонскага праваабаронцы незарэгістраванага цэнтра «Вясна» **Алеся Дзергачова** заўважылі супрацоўнікаў міліцыі. Дзергачоў нейкі час не выходзіў на сувязь, яго тэлефон быў недасяжны. Вядома, што на 17 гадзін 25 сакавіка яго выклікалі ў міліцыю.

**У 12:30 стала вядома, што Дзергачоў на волі, яго не затрымлівалі.**

Міліцыянеры прынеслі яму позву ў РАУС на 25 сакавіка.

Доктара мясцовай бальніцы **Наталлю Курбацкую** выклікалі ў міліцыю 25 сакавіка. Курбацкая падавала заяўку на правядзенне Дня Волі ў Смаргоні, але ёй адмовілі. Сайт мясцовай раённай газеты паведаміў, што ёй адмовілі ў сувязі з парушэннем у падачы поўнага пакета дакументаў.

**Настасся УТКІНА.**

## Арцыбіскуп Кандрусевіч правёў богаслужэнне ў Маладзечне

**21 сакавіка арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч правёў богаслужэнне ў маладзечанскім касцёле Святога Юзафа.**

Касцёл быў цалкам запоўнены вернікамі. Кандрусевіч падзякаваў усім, хто маліўся за яго, калі арцыбіскуп знаходзіўся па-за межамі Беларусі. Ён адзначыў, што гэта быў вельмі складаны для яго час.

**Кандрусевіч узначаліў святочную цэлебрацыю з нагоды ўрачыстасці ў гонар апекуна парафіі Святога Юзафа.**

Нагадаем, што Кандрусевіча не пусцілі 31 жніўня 2020 года ў Беларусь, калі ён вяртаўся з Польшчы. Яму забаранілі ўезд у краіну без тлумачэння прычын. 2 верасня ў Маладзечне адбылася акцыя ў падтрымку арцыбіскупа.

**Кандрусевіч змог вярнуцца на радзіму толькі 24 снежня.**

Перад гэтым з прашэннем аб Кандрусевічу ў Мінск да **Аляксандра Лукашэнкі** прыязджаў апостальскі нунцый **Клаўдзіа Гуджэроці**.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**



Тадэвуш Кандрусевіч падчас імшы.

## Беларусь 1

**6.10** Х/ф **«КАЧЕЛИ».**
**8.00** Існасць [СТ].
**8.30** Смысл жизни.
**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.
**9.10** «Доброе утро, Беларусь!» со Светланой Боровской».
**9.55** Здоровье. [СТ].
**10.45** Дача.
**11.20** Х/ф **«ДОМИК НА СЧАСТЬЕ 2».**
**12.10** Х/ф **«ПРИЗРАК НА ДВОИХ».**
**13.20** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи.
**15.10** Краіна.
**15.40** Один день.
**16.10, 19.10** Х/ф **«ВЕРИТЬ И ЖДАТЬ».**
**21.00** Панорама.
**21.45** Праздничное Богослужение на Светлое Христово Воскресение по календарю католической конфессии.
**23.45** Х/ф **«ЛИДИЯ».**
**1.55** День спорта.

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.
**8.00, 17.35** Телебарометр.
**8.05** Т/с **«КЛОН».**
**9.45** Анимация для всей семьи «Суперсемейка».
**11.35** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.
**12.20** «Камень, ножницы, бумага».
**12.55** «На неделю».
**13.35** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.
**14.30** Х/ф **«ЕШЬ, МОЛИСЬ, ЛЮБИ».**
**16.45** «Богиня шопинга. Экстремальный сезон». Реалити-шоу.
**17.40** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.
**19.25** Х/ф **«НЕУЯЗВИМЫЙ».**
**21.10** Спортлото 6 из 49, КЕНО.
**21.20** Галактическая сага «Звездные войны: Эпизод I – Скрытая угроза».
**23.40** Х/ф **«СЕЗОН ЧУДЕС».**

## Беларусь 3

**7.30** «Сіла веры».
**8.00, 14.05** Навіны культуры.
**8.20** «Кораблик». Мультфільм.
**8.30** «Мы з джаза». Мастацкі фільм.
**10.00** «Народны майстар». Ігар Еўсціхаў (вырабы са скуры).
**10.25** «Беларуская кухня». Тушаная рэпа і салата з лебяды.
**10.55** «Я хачу гэта ўбачыць!».
**11.20** «Дзяржаўная граніца». Фільм першы «Мы наш, мы новы…» [СТ].
**13.35** «Навукаманія».
**14.20** «Як снег на галаву». Мастацкі фільм.
**15.55** «Архітэктура Беларусі» [СТ].
**16.10** «Майстры і куміры». Акцёр тэатра і кіно, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Уладзімір Рагаўцоў.
**17.05** Канцэрт «Мы – народ...».
**18.45** «Справа Румянцава». Мастацкі фільм.
**20.25** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць – рэжысёр Беларускага радыё Алег Вінярскі.
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Дамы запрашаюць кавалераў». Мастацкі фільм [СТ].
**22.15** І.С.Бах. «Пакута па Марку». Выконваюць Дзяржаўны камерны аркестр Рэспублікі Беларусь, Студэнцкі хор Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Дырыжор – Ёрн Бойзен.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 20.00** Наши новости.
**7.10** ОНТ представляет: «Марков. Ничего личного».
**8.00, 9.10** ОНТ представляет: «Наше утро в субботу».
**10.00** ОНТ представляет: «Тревожная кнопка».
**10.25** «Видели видео?».
**11.15** Людмила Чурсина, Георгий Епифанцев, Александр Демьяненко в классической версии сериала «Угрюм-река».
**16.20** Людмила Чурсина, Георгий Епифанцев, Александр Демьяненко в классической версии сериала «Угрюм-река» Продолжение.
**17.25** «Первый канал. От Москвы до самых до окраин».
**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».
**21.05** Премьера. «Сегодня вечером».
**22.45** Т/с **«УЗКИЙ МОСТ».**

## СТВ

**6.05, 1.20** «Секретные территории».
**7.45** «Анфас».
**8.05** Документальный проект.
**9.00** «Самая полезная программа».
**10.00** «Минск и минчане».
**10.30** «Центральный регион».
**11.00, 13.40, 16.40, 20.30** Т/с **«ВАЖНЯК. ИГРА НАВЫЛЕТ».**
**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».
**20.20** «СТВ-спорт».
**23.00** Документальный спецпроект.
**23.50** «Территория заблуждений».

## Мир

**5.00** Х/ф **«СТАРИКИ-РАЗБОЙНИКИ».**
**6.00** «Всё, как у людей».
**6.15, 8.05** Мультфильмы.
**7.10** «Игра в слова». с Антоном Комоловым.
**8.25** «Рожденные в СССР». К 85-летию С. Говорухина.
**9.00** Ток-шоу «Слабое звено».
**10.00** Погода в Мире.
**10.10** Х/ф **«ДЕСЯТЬ НЕГРИТЯТ».**
**12.55, 16.15, 19.15** Т/с **«ЭКСПРОПРИАТОР».**
**16.00, 19.00** Новости.

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».
**6.05, 7.10** Сегодня. Главное.
**6.10** За гранью.
**6.35** «Дача».
**7.25** «50 рецептов первого».
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.20** «ЧП.by: Время итогов».
**8.45** «Города Беларуси».
**9.20** «Врачебные тайны плюс».
**10.20** Главная дорога.
**10.55** «Живая еда с Сергеем Малозёмовым».
**11.50** Квартирный вопрос.
**12.45** Истории спасения.
**13.20** «Поедем, поедим!».
**13.55** Х/ф **«ДЕРЖИСЬ ЗА ОБЛАКА».**
**16.20** «Секрет на миллион». Вика Цыганова.
**18.10** «Следствие вели…».
**19.00** «Центральное телевидение» с Вадимом Такменевым.
**19.55** Х/ф **«ЛИХАЧ».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** «Новое Утро».
**9.30** «Специальный репортаж».
**9.55** «Тайны Беларуси».
**11.00** ВЕСТИ.
**11.30** «Формула еды».
**12.00** ПРЕМЬЕРА. «Юмор! Юмор! Юмор!!!».
**13.05** ПРЕМЬЕРА. «Доктор Мясников».
**14.10** Х/ф **«СЧАСТЬЕ НАПОЛОВИНУ».**
**16.05** Т/с **«ТАЙНА МАРИИ».**
**19.45** «Плюс-минус».
**20.00** ВЕСТИ В СУББОТУ.
**20.45** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.
**22.30** Х/ф **«ОТДАЙ СВОЮ ЖИЗНЬ».**

# кіно і спорт

### TV1000

**5.00** Тепло наших тел. **6.30** Тёмная вода. **8.10** Звонок. **10.10** Звонок 2. **12.00, 1.45** Повелитель стихий. **13.45** Седьмой сын. **15.25** История одного вампира. **17.20, 3.25** Спайдервик: Хроники. **19.00** Новый человек-паук. **21.20** Новый Человек-паук: Высокое напряжение. **23.45** Зелёный Шершень.

### TV1000 ACTION

**5.10** Каратэ-пацан. **7.55** Смокинг. **9.45** Большой переполох в маленьком Китае. **11.25** Соната. **13.00** Шесть демонов Эмили Роуз. **15.00, 1.30** Соломон Кейн. **16.45** Джон Уик 3. **19.00** Гнев. **21.30** Великий уравнитель. **23.50** Телохранитель. **3.10** Избави нас от лукавого.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**5.30** Виват, гардемарины! **7.50** Одноклассницы: Новый поворот. **9.20** Любовницы. **11.00** Любовь с ограничениями. **12.50** Кома. **14.50** Лёд. **16.55** Лёд 2. **19.25** Любовь-морковь. **21.25** Любовь-морковь 2. **23.05** Любовь-морковь 3. **0.50** Жги! **2.25** Эбигейл. **4.25** Добрыня Никитич и Змей Горыныч.

### ТВ3

**6.00, 9.15, 5.45** Мультфильмы. **9.00** «Рисуем сказки». **10.00** Х/ф **«СЛАДКИЙ НОЯБРЬ». 12.30** Х/ф **«2:22». 14.30** Х/ф **«БИБЛИОТЕКАРЬ». 16.30** Х/ф **«БОГИ ЕГИПТА». 19.00** «Последний герой. Чемпионы против новичков». **20.30** Х/ф **«СЕРДЦЕ ИЗ СТАЛИ». 22.45** Х/ф **«МИФ». 1.15** Х/ф **«ДОМ У ОЗЕРА». 2.45, 3.30** «Дневник экстрасенса с Фатимой Хадуевой». **4.15** «Места Силы». **5.00** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** «Две судьбы». **12.00, 20.00, 4.00** «Любовь по приказу». **13.00, 21.00, 5.00** «Ермоловы». **14.00, 22.00, 6.00** «На глубине». **15.00, 23.00, 7.00** «Одна тень на двоих». **0.00, 1.00** Х/ф **«ЛУНОЙ БЫЛ ПОЛОН САД». 2.00, 3.00** Х/ф **«СНЕЖНЫЙ АНГЕЛ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.55** Х/ф **«SUPERАЛИБИ». 2.40** Х/ф **«СЧАСТЬЯ! ЗДОРОВЬЯ!». 4.15, 23.10** Х/ф **«СЕМЕЙНОЕ ОГРАБЛЕНИЕ». 5.55** Х/ф **«ПАПАШИ БЕЗ ВРЕДНЫХ ПРИВЫЧЕК». 7.50** Х/ф **«КРОВЬЮ И ПОТОМ: АНАБОЛИКИ». 10.15** Х/ф **«БЕЗ ИЗЪЯНА». 12.15** Х/ф **«СМЕРТЬ НА ПОХОРОНАХ». 13.55** Х/ф **«ПРИТВОРИСЬ МОИМ МУЖЕМ». 15.45** Х/ф **«СВИДАНИЕ ВСЛЕПУЮ». 17.35** Х/ф **«МИЛЛИАРД». 19.30** Х/ф **«МИЛЛИОНЕР ПОНЕВОЛЕ». 21.15** Х/ф **«НИЧЕГО НЕ ВИЖУ, НИЧЕГО НЕ СЛЫШУ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.35, 1.40, 2.40, 3.35** Т/с **«ПАУК». 4.25, 5.10, 6.00, 7.00, 7.50, 8.45** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА». 9.45** Т/с **«ЛЁД». 11.55, 12.55, 13.55, 14.55, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 20.00, 21.00, 22.05, 23.05** Т/с **«ПОД ПРИКРЫТИЕМ».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.25** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25, 15.30** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.00, 2.55** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **12.00** Реалити-шоу «КОЛЛЕДЖ». **13.30** Т/с **«КОРНИ». 16.35** Х/ф **«МУЖЧИНА НАРАСХВАТ». 18.40** Х/ф **«ХОДЯЧИЙ ЗАМОК». 21.00** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **22.30** Х/ф **«АСТЕРИКС И ОБЕЛИКС ПРОТИВ ЦЕЗАРЯ». 0.40** Х/ф **«ПЕТЛЯ ВРЕМЕНИ». 3.45** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Хоккей. КХЛ. Западная конференция. Финал. Первый матч. **8.50** Спортивные бальные танцы. Чемпионат Беларуси. **10.40** Овертайм. **11.10** Хоккей. Чемпионат Беларуси. Финал. Первый матч. **13.05** Большой спорт. **13.50** Футбол. Беларусбанк – Чемпионат Беларуси. Третий тур. БАТЭ (Борисов) – ФК Гомель. **15.55** Вот это спорт! **16.15** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. **16.50** Спорт-центр. **19.20** Футбол. Чемпионат Англии. Лестер – Манчестер Сити. В перерыве Спорт-центр. **21.20** Футбол. На пути к ЕВРО-2020. **21.50** Футбол. Чемпионат Англии. Астон Вилла – Фулхэм. В перерыве Спорт-центр. **23.50** Волейбол. Чемпионат Беларуси. Мужчины. Финал. Третий матч.Шахтер (Солигорск) – Строитель (Минск).

### EUROSPORT

**0.30, 11.00** Велоспорт. The Players Championship. Финал. **2.30, 8.30, 15.00** Велоспорт. Тур Сицилии. 3-й этап. **4.00** Биатлон. Чемпионат мира. Поклюка. Женщины. Спринт. **4.45** Биатлон. Чемпионат мира. Поклюка. Женщины. Пасьют. **5.15** Биатлон. Чемпионат мира. Поклюка. Женщины. Индивидуальная гонка. **6.00** Биатлон. Чемпионат мира. Поклюка. Женщины. Масс-старт. **6.30** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. **9.30** Велоспорт. Мировой тур. **14.00, 23.00** Велоспорт. «Тур Фландрии»-2020. **15.45** Велоспорт. Тур Сицилии. 4-й этап. Прямая трансляция. **17.30** Тяжёлая атлетика. Чемпионат Европы. Москва. Женщины. До 45 кг. Прямая трансляция. **18.45** Тяжёлая атлетика. Чемпионат Европы-2019. Батуми. Женщины. До 49 кг. **20.00** Тяжёлая атлетика. Чемпионат Европы. Москва. Женщины. До 49 кг. Прямая трансляция. **21.45** Велоспорт. Тур Сицилии. 4-й этап.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 16.55** Трасса А2. **6.45, 9.05, 11.50, 14.50, 17.45, 22.35, 23.30, 2.55** Итоговые новости. **7.00, 18.05** Автовинтаж _с. **7.35, 8.35** Резьба по стали. **8.00** Испытание на прочность. **9.25** Кузовной ремонт. **9.55, 10.15** Все включено. Эксклюзив. **10.35, 10.50, 0.40, 1.00** Тест с дядей Ваней. **11.10, 19.30, 22.55, 3.10** Возвращение легенды. **12.05, 20.15, 23.50, 4.00** Стальные парни. **12.55, 1.15** Вторичка. **13.15, 13.50, 1.30, 2.00** Тест на «Драйве». **14.20, 2.25** Сити-тестер. **15.10, 4.45** Эконом-тест. **15.30, 21.20, 5.00** Это Родина твоя. **15.55, 5.30** За рулем каждый день. **16.25** Сделано в России. **18.40** Школа внедорожного вождения. **18.55** Проверка на дороге. **20.00, 5.55** Наезд! **21.00** Эконом-тест. Эксклюзив. **21.50** Советы юриста. **3.40** Автолайф.

### EXPLORE

**6.10, 5.20** Рыбалка со звездами. **6.35, 7.25, 8.10, 0.40, 1.25, 2.15, 3.00, 3.45, 4.35** Австралийские золотоискатели. **9.00, 9.45, 10.30, 11.20, 12.05, 12.50, 13.40, 14.25, 18.00** Драндулеты на продажу. **15.10, 21.20, 22.10** Чудовищный карп. **16.25, 18.50, 23.00** Ледовые викинги. **17.10** Снос в Австралии. **19.35, 20.30** Речные чудовища. **23.45, 0.15** Австралийские ловцы быков.

### HISTORY

**6.10, 6.55** Музейные тайны. **7.40, 0.50** Загадки Египта. **8.30, 9.25, 10.20, 1.40, 2.35** Мегаполис: секреты древнего мира. **11.15, 12.10** Николай и Александра: последние монархи России. **13.05, 13.50** Расшифровка тайн. **14.35, 15.20, 5.15** Тайны музеев. **16.10, 17.05, 18.05** Древние небеса. **19.00, 20.05** Дети королевы Виктории. **21.10** Разгадка тайны пирамид. **22.00** Тайны мертвых. **23.00, 23.55** Древние суперстроения. **3.30, 4.25** Расшифрованные сокровища.

### NATURE

**6.10** Уличный ветеринар. **6.40** Мир природы – черные мамбы. **7.30, 13.35** Мадагаскар, африканский Галапагос. **8.25, 9.15, 10.10, 18.05, 18.55, 19.50** Нил: величайшая из рек. **11.00, 11.55, 12.45** Великие миграции в природе. **14.30, 20.45** Исчезающие цари – львы пустыни Намиб. **15.25, 16.15, 17.10** Бескрайняя Африка. **21.35, 22.30, 23.20** Земля больших кошек. **0.10** Невероятные встречи с животными. **1.00** Рассказы о бурях. **1.45, 4.10, 5.05** Выживание в дикой природе. **2.35** В зоопарке Таронга. **3.20** Спасение диких медведей. **3.45** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 5.40** Научные глупости. **6.15, 7.10** Дикий тунец. **8.00, 8.50** Авто-SOS. **9.45** Тайвань – остров рыбы. **10.30** Мир хищников. **11.30, 12.25** Враждебная планета. **13.15, 14.10** Осушить океан. **15.05, 15.55** Сканируя время. **16.45, 17.35, 18.25** Древний Китай с высоты птичьего полета. **19.15** Возрождение морского шелкового пути. **20.10** Величайшие сокровища древнего мира. **21.00, 21.50** Затерянные сокровища Египта. **22.40, 23.30** Затерянные города с Альбертом Лином. **0.20, 1.05** Истории спасения. **1.50** Расследования авиакатастроф. **2.35, 3.20** Самые лучшие суперкары. **4.10, 4.55** Настоящий суперкар.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 7.00, 9.05, 10.05, 11.05, 12.05, 13.05, 14.05, 15.05, 16.05, 17.05, 18.05, 19.05, 20.05, 21.05, 22.05, 23.10, 0.10, 1.10, 2.10, 3.10, 4.10, 5.05** Рыбалка без границ. **6.30, 7.30, 8.35, 9.35, 10.35, 11.35, 12.35, 13.35, 14.35, 15.35, 16.35, 17.35, 18.35, 19.35, 20.35, 21.35, 22.40, 23.40, 0.45, 1.40, 2.40, 3.40, 4.35, 5.30** Рыбный день. **8.00** На рыбалку с охотой.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.10, 14.05, 18.10, 22.10, 2.20** Альтернативный сад. **6.35, 10.40, 14.40, 18.40, 22.40, 2.50** Доктор смузи. **6.50, 11.00, 15.00, 19.00, 23.00, 3.05** Постное меню. **7.00, 11.15, 15.15, 19.15, 23.15, 3.25** Секреты стиля. **7.30, 11.45, 15.45, 19.50, 23.50, 3.50** Школа ландшафтного дизайна. **8.00, 12.15, 16.15, 20.20, 0.20, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 16.30, 20.35, 0.35, 4.35** Сельсовет. **8.35, 12.50, 16.45, 20.50, 0.50, 4.50** 50 оттенков желе. **8.50, 17.05, 21.05, 1.10, 5.05** Умный дом. Новейшие технологии. **9.20** Травовед. **9.40, 13.35, 1.35** Хозяин. **12.30** Дом, милый дом! **13.05** Дети на даче. **17.35, 21.35, 5.30** Мегабанщики. **2.05** Кисельные берега.

## Беларусь 1

**6.05** Слово Епископа Казимира Великосельца на Светлое Христово Воскресение.

**6.15, 16.35, 19.10** Х/ф **«КАЧЕЛИ».**

**8.05** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.40** Истории спасения.

**10.10** «Зона Х». Итоги недели.

**10.40** Маршрут построен.

**11.20** Х/ф **«ДОМИК НА СЧАСТЬЕ 2».**

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«ПРИЗРАК НА ДВОИХ».**

**13.30** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи.

**15.15** Вокруг планеты.

**15.55** «Повод есть».

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.05** Х/ф **«ВЕРИТЬ И ЖДАТЬ».**

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.

**8.00, 19.45** Телебарометр.

**8.05** Т/с **«КЛОН».**

**9.50** Т/с **«ТИМОН И ПУМБА».**

**10.15** «Три первых свидания». Реалити-шоу.

**11.05** Х/ф **«НЕУЯЗВИМЫЙ».**

**12.50** «На ножах». Кулинарное реалити-шоу.

**13.45** «Папа попал». Реалити-шоу.

**15.20** «Меняю жену». Реалити-шоу.

**17.15** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**18.05** Х/ф **«АСТРАЛ 4: ПОСЛЕДНИЙ КЛЮЧ».**

**20.15** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«ЕШЬ, МОЛИСЬ, ЛЮБИ».**

**23.35** «Любовь на выживание». Романтическое реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.25** «Размовы пра духоўнае». Вялікдзень (кат.).

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 14.30** Навіны культуры.

**8.15** «Сказка о Золотом Петушке». Мультфільм.

**8.45** «Дамы запрашаюць кавалераў». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.30** «Беларуская кухня». Бульба з рыбай і грыбамі.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.50** «Як снег на галаву». Мастацкі фільм.

**13.25** «Народны майстар». Людміла Кавалёва (ткацтва).

**13.50** «Сваімі словамі». Тэлевіктарына.

**14.50** «Справа Румянцава». Мастацкі фільм.

**16.30** Трансляцыя Велікоднага Паслання і Благаславення «Граду і Свету» з Ватыкана з удзелам Святейшага Айца.

**17.10** Франсіс Пуленк. Кантата «Stabat Mater». Выконвае Сімфанічны аркестр і хор Белтэлерадыёкампаніі.

**17.40** «Бенедыкт Дыбоўскі. Тайны Сваяшчэннага мора». Гісторыка-біяграфічны фільм.

**18.20** «Дзяржаўная граніца». Фільм першы «Мы наш, мы новы...» [СТ].

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Мы з джаза». Мастацкі фільм.

**22.35** «Belcanto». Сольны канцэрт Анастасіі Масквіной і Аксаны Волкавай.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.10** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.30** «Теория заговора».

**10.30** ОНТ представляет: «Народный повар».

**11.50** «Видели видео?».

**14.00** Т/с **«СВАДЬБЫ И РАЗВОДЫ».**

**16.20** Ко дню рождения Ильи Резника. «Который год я по земле скитаюсь...».

**17.30** «Точь-в-точь». Новый сезон.

**20.00** «Контуры».

**21.20** «Что? Где? Когда?». Весенняя серия игр.

**22.35** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**22.55** Ко дню рождения Ильи Резника. Юбилейный вечер.

## СТВ

**6.30, 0.00** «Секретные территории».

**9.00** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.05** «Знаете ли вы что?».

**12.05, 13.40, 16.40** Т/с **«ВАЖНЯК. ИГРА НА ВЫЛЕТ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**21.05** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00** Т/с **«ЭКСПРОПРИАТОР».**

**6.00** Мультфильмы.

**6.55** «Секретные материалы». Вера в бакс.

**7.25** Х/ф **«НА ДЕРИБАСОВСКОЙ ХОРОШАЯ ПОГОДА, ИЛИ НА БРАЙТОН-БИЧ ОПЯТЬ ИДУТ ДОЖДИ».**

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10, 16.15, 19.30, 1.00** Т/с **«У КАЖДОГО СВОЯ ВОЙНА».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.10** «Тело человека».

**6.45** Беларусы.

**7.20** «50 рецептов первого».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.45** «Города Беларуси».

**9.20** «Я хочу это увидеть!».

**10.20** «Квартирный вопрос. Ву».

**10.55** «Первая передача».

**11.25** «Чудо техники».

**12.10** «Дачный ответ».

**13.10** «НашПотребНадзор».

**14.00** Х/ф **«ДЕРЖИСЬ ЗА ОБЛАКА».**

**16.20** «Следствие вели...».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.05** Ты не поверишь!

**21.10** «Звезды сошлись».

**22.35** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**23.05** Х/ф **«В ТВОИХ ГЛАЗАХ».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** Т/с **«ОЙ, МА-МОЧКИ!..-2».**

**11.00** ВЕСТИ.

**11.30** Х/ф **«ДЕРЕВЕНЩИНА».**

**15.00** ПРЕМЬЕРА. «Парад юмора».

**16.35** Т/с **«ТАЙНА МАРИИ».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.05** «В людях».

**21.45** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**22.25** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**5.00** Призрак дома на холме. **7.10** Седьмой сын. **8.55** Спайдервик: Хроники. **10.35** Зелёный Шершень. **12.35** Новый человек-паук. **14.55** Новый Человек-паук: Высокое напряжение. **17.20** Остров Ним. **19.00** Марли и я. **21.00** Клик: с пультом по жизни. **22.50** Всплеск. **0.45** Талантливый мистер Рипли. **2.55** Умница Уилл Хантинг.

### TV1000 ACTION

**5.10** Соната. **6.50** Соломон Кейн. **8.35** Джон Уик 3. **10.45** Великий уравнитель. **13.00** Гнев. **15.30** Телохранитель. **17.15** Игра Ганнибала. **19.00** Последний рубеж. **20.40** Прогулка среди могил. **22.40** Дэнни Цепной пёс. **0.20** Телепорт. **1.45** Континуум. **3.30** Отель «Артемида».

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**5.45** Гардемарины III. **7.45, 2.30** Один вдох. **9.45, 0.55** Жги! **11.35** Любовь-морковь. **13.35** Любовь-морковь 2. **15.15** Любовь-морковь 3. **17.05** Самый лучший день. **19.00** Самый Новый год! **20.30** Килиманджара. **21.55** Девушки бывают разные. **23.30** О чём молчат девушки. **4.25** Три богатыря и Шамаханская царица.

### ТВ3

**6.00, 9.30** Мультфильмы. **8.45** «Рисуем сказки». **9.00** «Новый день». **10.30** Х/ф **«ПОСЛЕДНИЙ ЛЕГИОН».** **12.30** Х/ф **«В ПОИСКАХ ПРИКЛЮЧЕНИЙ».** **14.30** Х/ф **«СЕРДЦЕ ИЗ СТАЛИ».** **16.30** Х/ф **«МИФ».** **19.00** Х/ф **«ВОЙНА БОГОВ: БЕССМЕРТНЫЕ».** **21.00** Х/ф **«БОГИ ЕГИПТА».** **23.45** «Последний герой. Чемпионы против новичков». **1.15** Х/ф **«СЛАДКИЙ НОЯБРЬ».** **3.00, 4.00** «Дневник экстрасенса с Фатимой Хадуевой». **4.45** «Места Силы». **5.30** «Охотники за привидениями. Битва за Москву».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00** Х/ф **«ЛУНОЙ БЫЛ ПОЛОН САД».** **10.00, 11.00, 18.00, 19.00** Х/ф **«СНЕЖНЫЙ АНГЕЛ».** **12.00, 20.00, 4.00** «Любовь по приказу». **13.00, 21.00** «Ермоловы». **14.00, 22.00, 6.00** «На глубине». **15.00, 23.00, 7.00** «Одна тень на двоих». **0.00, 1.00** «Татьянин день». **2.00, 3.00** «Неравный брак». **5.00** «Вольф Мессинг: видевший сквозь время».

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.50** Х/ф **«ТАЧКА НА МИЛЛИОН».** **2.55** Х/ф **«НА МОРЕ!».** **4.45** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК, КОТОРЫЙ СЛИШКОМ МАЛО ЗНАЛ».** **6.25** Х/ф **«ПЯТЬ НЕВЕСТ».** **8.25** Х/ф **«ВАСАБИ».** **10.10** Х/ф **«НИЧЕГО НЕ ВИЖУ, НИЧЕГО НЕ СЛЫШУ».** **12.10** Х/ф **«МОДНАЯ ШТУЧКА».** **14.00** Х/ф **«СВАДЬБА ПО ОБМЕНУ».** **15.50** Х/ф **«ПЕРВАЯ ДОЧЬ».** **17.40** Х/ф **«БРИЛЛИАНТОВЫЙ ПОЛИЦЕЙСКИЙ».** **19.30** Х/ф **«ШПИОН, КОТОРЫЙ МЕНЯ КИНУЛ».** **21.35** Х/ф **«ОТЛИЧНИЦА ЛЕГКОГО ПОВЕДЕНИЯ».** **23.15** Х/ф **«СЧАСТЬЯ! ЗДОРОВЬЯ!».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.05, 1.05, 2.05, 3.05** Т/с **«ПАУК».** **4.00, 4.55, 5.50, 6.50, 7.45, 8.45, 9.35, 10.30, 21.50, 22.40, 23.35** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».** **11.20** Т/с **«ТЕКСТ».** **13.50, 14.50, 15.50, 16.50, 17.50, 18.50, 19.50, 20.50** Т/с **«ОПЕРАЦИЯ «САТАНА».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.25** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00, 2.20** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **11.00** Шоу «МИША ПОРТИТ ВСЁ». **12.00** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **12.40** Х/ф **«УНЕСЁННЫЕ ПРИЗРАКАМИ».** **15.10, 22.00, 1.05** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **16.50** Х/ф **«СХВАТКА».** **19.10** Х/ф **«НЕВЕЗУЧИЙ».** **21.00** Шоу «СТЕНДАП АНДЕГРАУНД». **23.30** Travel-шоу «СЕЛАПОЛЕТЕЛА». **0.15** «КИНО В ДЕТАЛЯХ». **1.55** «ПРОСТО КУХНЯ». **3.10** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.30** Теннис. ВТА. Майами. Финал. **8.05** Хоккей. Чемпионат Беларуси. Финал. Второй матч. **10.00** Футбол. Беларусбанк – Чемпионат Беларуси. Третий тур. БАТЭ (Борисов) – ФК Гомель. **11.55** Хоккей. КХЛ. Восточная конференция. Финал. Первый матч. **13.50** Футбол. Беларусбанк – Чемпионат Беларуси. Третий тур. Динамо-Минск – ФК Слуцк. **15.50** Баскетбол. Единая лига ВТБ. Парма (Пермь) – Цмокі-Мінск. **17.20** Футбол. На пути к ЕВРО-2020. **17.50** Пит-стоп. **18.20** Спорт-центр. **20.20** Тяжелая атлетика. Чемпионат Европы. Москва. Мужчины. 61 кг. В перерыве Спорт-центр. **22.00** Футбол. Чемпионат Англии. Манчестер Юнайтед – Брайтон. В перерыве Спорт-центр. **23.30** Футбол. Беларусбанк – Чемпионат Беларуси. Третий тур. Обзор. **0.15** Итоги недели.

### EUROSPORT

**0.30** Тяжёлая атлетика. Чемпионат Европы. Москва. До 45 кг. **1.30** Тяжёлая атлетика. Чемпионат Европы. Москва. До 49 кг. **2.30, 9.30** Велоспорт. «Тур Фландрии»-2020. **4.00** Биатлон. Чемпионат мира. Поклюка. Мужчины. Спринт. **4.45** Биатлон. Чемпионат мира. Поклюка. Мужчины. Пасьют. **5.15** Биатлон. Чемпионат мира. Поклюка. Мужчины. Индивидуальная гонка. **6.00** Биатлон. Чемпионат мира. Поклюка. Мужчины. Масс-старт. **6.30** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. **8.30** Велоспорт. Тур Сицилии. 4-й этап. **10.40** Велоспорт. «Тур Фландрии». Мужчины. Прямая трансляция. **17.30** Велоспорт. «Тур Фландрии». Женщины. Прямая трансляция. **19.30** Тяжёлая атлетика. Чемпионат Европы. Москва. Мужчины. До 55 кг. **20.00** Тяжёлая атлетика. Чемпионат Европы. Москва. Мужчины. До 61 кг. Прямая трансляция. **21.45** Велоспорт. «Тур Фландрии». Мужчины. **23.15** Велоспорт. «Тур Фландрии». Женщины.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 16.55** Трасса А2. **6.45, 9.55, 14.55** Наезд! **7.00, 18.05** Автовинтаж_с. **7.30** Резьба по стали. **7.55, 10.20, 12.50, 15.35, 18.40, 23.20, 1.05, 3.35** Итоговые новости. **8.15** Испытание на прочность. **8.50, 9.05, 16.35** Все включено. Эксклюзив. **9.25** Сделаем как надо. **10.05, 19.15** Автолайф. **10.40, 10.55, 0.30, 0.50** Тест с дядей Ваней. **11.10, 19.30, 22.45, 3.00** Возвращение легенды. **11.40, 20.05, 23.40, 3.50** Стальные парни. **12.30, 1.20** Вторичка. **13.10, 13.40, 1.35, 2.05** Тест на «Драйве». **14.10, 2.30** Сити-тестер. **14.40, 20.55** Эконом-тест. Эксклюзив. **15.10, 21.15, 5.05** Это Родина твоя. **15.50, 21.45** Советы юриста. **17.45** Проверка на дороге. **18.55** Школа внедорожного вождения. **22.35** Обновление. **4.35, 4.50** Эконом-тест. **5.30** За рулем каждый день.

### EXPLORE

**6.00, 6.50, 7.45, 8.35, 9.30** Речные чудовища. **10.20** Чудовищный карп. **11.10** Ледовые викинги. **11.55, 12.40, 13.30, 14.15, 15.05, 15.50, 16.35, 17.25, 18.10, 19.00, 19.45, 20.30, 21.20, 22.05** Австралийские золотоискатели. **22.50** Снос в Австралии. **23.45, 0.10, 0.35, 0.55, 1.20, 1.45, 2.10, 2.35, 3.00, 3.25, 3.50, 4.15, 4.40, 5.05, 5.30** Нефритовая лихорадка.

### HISTORY

**6.15, 7.00** Музейные тайны. **7.45, 0.50** Загадки Египта. **8.30, 9.30, 10.25, 1.35, 2.35** Сканирование Нила. **11.20, 12.10, 5.10** Тайны музеев. **12.55, 13.50** Николай и Александра: последние монархи России. **14.40, 15.25** Расшифровка тайн. **16.10** Древние небеса. **17.10, 18.10** История христианства. **19.15, 20.10** Осада Мальты: воины Господа. **21.10** Разгадка тайны пирамид. **22.00** Операция «Золотая лихорадка». **22.55, 23.50** Древние суперстроения. **3.30, 4.20** Расшифрованные сокровища.

### NATURE

**6.10** Уличный ветеринар. **6.40, 13.35** Исчезающие цари – львы пустыни Намиб. **7.35, 8.25, 9.15** Великие миграции в природе. **10.10** Мадагаскар, африканский Галапагос. **11.00, 11.55, 12.45** Великая рифтовая долина – дикое сердце Африки. **14.30, 20.45** Исчезающие цари – львы пустыни Намиб II. **15.25, 16.15, 17.10** Бескрайняя Африка. **18.00, 18.55, 19.50** Тайная жизнь слонов. **21.35, 22.30, 23.20** Земля больших кошек. **0.10** Невероятные встречи с животными. **1.00** Рассказы о бурях. **1.45, 4.10, 5.05** Выживание в дикой природе. **2.35** В зоопарке Таронга. **3.20** Спасение диких медведей. **3.45** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 5.45** Научные глупости. **6.15** Короли рыбалки. **8.00, 9.45, 2.00, 2.45** Авто-SOS. **8.50** Возрождение морского шелкового пути. **10.35** Япония: между небом и землей. **11.25** Нераскрытые тайны второй мировой войны. **13.05, 13.55, 14.45** Остров бунтарей. **15.35, 16.35, 17.30** Деревянная кожа. **18.25, 19.20, 20.10, 21.00, 21.50** Инстинкт выживания. **22.40** Экстремальное путешествие: Вторая мировая война. **0.20, 1.10** Вторая мировая война: Ад под водой. **3.25** Расследования авиакатастроф. **4.10, 4.55** Машины: Разобрать и продать.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 14.00, 2.10** Рыбалка в России. **6.30, 10.30, 22.35, 2.40** Охотник-одиночка. **7.00, 11.00, 14.50, 23.05, 3.10** Безграничная рыбалка,. **7.25, 11.30, 15.20, 19.25, 3.40** Мир рыболова. **8.00, 15.50, 4.05** Рыбалка сегодня XL. **8.30, 12.30, 16.20, 20.30, 4.35** Рыбалка с Нормундом Грабовскисом. **8.55, 13.00, 16.50, 1.05, 5.00** Сомы Европы. **9.30, 13.30, 17.25, 1.40, 5.35** Зима. Удочка. Поклевка. **10.00, 22.05** Рыболовная Россия. **12.00, 20.00, 0.10** Рыбалка 360. **14.30** Кодекс охотника. **17.55** Андрей Старков и его команда. **18.25** Охота в Удмуртии. **18.55** Мой мир – рыбалка. **21.00** На рыбалку с охотой. **21.35** Готовим на природе. **21.50** Давай зарубимся! **23.35** Один день из жизни. **0.40** Стратегия охоты с Сергеем Астаховым.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.10, 14.10, 18.10, 22.10, 2.20** Альтернативный сад. **6.35, 10.45, 14.40, 18.40, 22.40, 2.50** Доктор смузи. **6.50, 11.05, 15.00, 19.00, 23.00, 3.05** Постное меню. **7.00, 11.20, 15.15, 19.15, 23.15, 3.25** Секреты стиля. **7.30, 11.50, 15.45, 19.50, 23.50, 3.50** Школа ландшафтного дизайна. **8.00, 12.20, 16.15, 20.20, 0.20, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.35, 16.35, 20.35, 0.35, 4.35** Сельсовет. **8.35, 12.50, 16.50, 20.50, 0.50, 4.50** 50 оттенков желе. **8.50, 13.10, 17.05, 21.05, 1.10, 5.05** Умный дом. Новейшие технологии. **9.20** Травовед. **9.40, 17.35, 21.35, 1.35, 5.30** Мегабанщики. **13.40** Хозяин. **2.05** Кисельные берега.

# Гісторыя палка Корпуса аховы памежжа «Вілейка»

**Магістр палітычных навук і навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея Андрэй Каркотка расказвае гісторыю палка Корпуса аховы памежжа «Вілейка»: як яго стварылі, што з ім адбывалася да пачатку Другой сусветнай вайны і як пагранічнікі ваявалі з пачаткам ваенных дзеянняў.**



Пагранічнікі палка ў Вілейцы.

Фота з фондаў Вілейскага краязнаўчага музея.

12 верасня 1924 года Міністэрства ваенных спраў Польскай рэспублікі пад кіраўніцтвам **Уладзіслава Сікорскага** выдала загад аб стварэнні Корпуса аховы памежжа (КАП). Корпус падпарадкоўваўся двум органам:

- Міністэрству ваенных спраў (у кадравых, арганізацыйных і апаратыўных пытаннях, навучанні);
- Міністэрству ўнутраных спраў (у пытаннях аховы граніцы, бяспекі ў пагранічнай паласе і бюджэце).

У ліпені 1929 года правялі рэарганізацыю Корпуса аховы памежжа. Рэарганізацыя тычылася ўнутранай арганізацыі, месцаў дыслакацыі падраздзяленняў. Усе падраздзяленні КАП атрымалі назвы ад населенага пункта ці геаграфічнага рэгіёна, у якім змяшчаліся іх штабы.

У выніку ў складзе корпуса з'явіліся падраздзяленні, што атрымалі назву «Вілейка»: полк, батальён і сапёрная рота.

### Што адбывалася з палком да пачатку Другой сусветнай вайны

Полк Корпуса аховы памежжа «Вілейка» сфарміравалі летам 1929 года з часткі падраздзяленняў цэнтральнага падпарадкавання КАП. У склад палка ўвайшлі 1-ы і 10-ы пагранічныя батальёны, а таксама 1-ы і 8-ы кавалерыйскія эскадроны. Батальёны і эскадроны па месцы дыслакацыі сталі называць адпаведна «Будслаў» і «Краснае». Першым камандзірам палка стаў падпалкоўнік **Юзаф Вятр**.

Ад 1 сакавіка 1934 года ў Вілейцы пачалося стварэнне пры штабе палка вучэбнай роты «Вілейка». Рота складалася з камандзіра роты аддзялення забеспячэння і двух узводаў. Вучэбная рота з'яўлялася самастойным падраздзяленнем, у склад якой затым уключылі вучэбна-кулямётны ўзвод.

**5 лістапада 1935 года палком стаў камандаваць падпалкоўнік Ян Францішак Галадык.**

23 лютага 1937 года камандаванне КАП правяло першую фазу рэарганізацыі корпуса. Яе вынікам стала прадстаўленне палкавога характару адміністратыўнай адзінкі КАП «Вілейка». Змянілі падпарадкаванасць: брыгаду «Вільна» ліквідавалі, а полк «Вілейка» падпарадкавалі непасрэдна камандзіру КАП. У склад палка ўключылі новы батальён «Вілейка», рэарганізавалі батальёны «Будслаў» і «Краснае», падпарадкавалі станцыю паштовых галубоў «Смаргонь» і роту сапёраў «Вілейка».

1938 год стаў апошнім, калі корпус дзейнічаў у адпаведнасці са структурай мірнага часу. У 1939 годзе полк «Вілейка» некалькі разоў змяняў склад сваіх падраздзяленняў. Акрамя палка «Вілейка» ў горадзе дыслацыраваліся інтэндатура «Вілейка» і пост выведкі №4, які ад верасня 1936 года месціўся ў Маладзечне.

### Асабовы склад і ўзнагароды палка «Вілейка»

Падраздзяленні КАП камплектаваліся кадравымі афіцэрамі і падафіцэрамі (сяржантамі), а таксама набранымі па прызыву вайскоўцамі. Салдаты тэрміновай службы прызываліся з любой часткі Польшчы, але часцей за ўсё ў пагранічнікі на мяжу з СССР прызываліся навабранцы з так званых Крэсаў Усходніх.

**За добрую службу пагранічнікаў стымулявалі: павышалі ў званнях, адзначалі грашовымі прэміямі і давалі польскія дзяржаўныя ўзнагароды.**

Ад 1924 да 1931 года 658 польскіх пагранічнікаў атрымалі дзяржаўныя ўзнагароды за службу.

Напрыклад, капрал **Казімір Шышко** (нарадзіўся ў Калачках Вілейскага павета) быў узнагароджаны за затрыманне двух кантрабандыстаў. Яны прапанавалі вайскоўцу хабар за пераход мяжы. Шышко ўзяў грошы, але затрымаў кантрабандыстаў, а грошы аддаў камандзіру. Пасля такім жа чынам Шышко затрымаў яшчэ пяцярых кантрабандыстаў. Вайскоўца ўзнагародзілі за сумленнасць на службе бронзавым «Крыжам Заслуг».

### Мабілізацыя і перадыслакацыя падраздзяленняў палка перад вайной

Склад палка неаднаразова змяняўся, а ў 1939 годзе асабліва з-за пагрозы вайны з Германіяй. Спачатку полк пакінулі сапёры, якіх у сакавіку 1939 года накіравалі на заходнюю мяжу Польшчы. У той жа час эскадрон кавалерыі «Будслаў» адправілі ў раён Велюнь.

З пачатку Другой сусветнай вайны полк ваяваў у арміі «Лодзь». Пасля баёў з нямецкімі войскамі падраздзяленні палка вымушаныя былі адступіць на ўсход. Затым была няўдалая спроба прарвацца ў Венгрыю, пасля якой 1-ы эскадрон капітуляваў падраздзяленням РККА. Афіцэраў арыштавалі і пазней многія з іх загінулі ў Катыні.

У красавіку 1939 года батальёны «Вілейка» і «Валожын» адправілі на паўднёвую мяжу Польшчы, іх уключылі ў 1-ю горную брыгаду. Камандзірам брыгады стаў былы камандзір палка КАП «Вілейка» Галадык, а ад мая 1939 года КАП «Вілейка» кіраваў падпалкоўнік **Юзаф Крамчыньскі**.

**30 жніўня 1939 года Корпус аховы памежжа праводзіць пераход да ваеннага становішча.**

Кадравыя салдаты і афіцэры з КАП «Вілейка» былі адпраўленыя на камплектаванне новага пяхотнага палка. Падраздзяленні, што засталіся ахоўваць мяжу з СССР, укамплектоўвалі рэзервістамі.

**Андрэй КАРКОТКА,**
**магістр палітычных навук, навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея.**

*Працяг будзе.*

● КАЛЯНДАР

26 САКАВІКА

**1960.** У в. Пугачы Валожынскага раёна нарадзіўся **Віктар Шніп**, беларускі паэт, празаік, перакладчык.



**1995.** Пачало дзейнічаць шэнгенскае пагадненне.

27 САКАВІКА

**1891.** У Глыбокім нарадзіўся **Клаўдзі Дуж-Душэўскі**, беларускі архітэктар, выдавец, журналіст, грамадскі дзеяч. Лічыцца стваральнікам сцяга БНР. Памёр і пахаваны ў Коўне (Каўнасе) ў 1959 годзе.



28 САКАВІКА

**1930.** Канстанцінопаль і Ангора афіцыйна перайменаваныя ў Стамбул і Анкару.

29 САКАВІКА

**1992.** 14-я расійская армія ўвайшла ў Прыднястроўе.

30 САКАВІКА

**1888.** Нарадзіўся **Ян Цеханоўскі**, нацыянальны дзеяч Заходняй Беларусі, педагог, дырэктар Навагрудскай беларускай гімназіі. Пераследаваны польскімі ўладамі быў пераведзены на працу ў Ашмяны, дзе і памёр у 1938 годзе. Пахаваны ў Вільні.

31 САКАВІКА

1931. Нарадзілася **Тамара Тышкевіч** (Чашніцкі раён Віцебскай вобласці), савецкая лёгкаатлетка. Першая беларуска, якая стала алімпійскай чэмпіёнкай, выступаючы ў штурханні ядра. Памерла ў 1997 годзе.

1 КРАСАВІКА

**2002.** Беларуская дзяржаўная політэхнічная акадэмія ператвораная ў Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Беларусь можа зрабіць эканамічны

## Маладзечанец расказвае, як арганізаваная адукацыя ў Беларусі, Расіі, Польшчы і тлумачыць, як дзякуючы змяненням у адукацыі можна ўзвысіць эканоміку



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Віталь Алейнік.

**Маладзечанец Віталь Алейнік працуе ў фінансавай галіне ў Мінску. Ён атрымаў адукацыю ў розных краінах. У час, калі сёлетнія выпускнікі вызначаюцца, куды паступаць, мы папрасілі маладзечанца параўнаць навучанне і яго вынікі ў розных краінах.**

Раней мы пісалі пра тое, як Алейніка затрымалі 23 верасня ў Мінску. Яго асудзілі на 15 сутак па артыкуле 23.34 «Парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў». Тэрмін адбываў спачатку на Акрэсціна, пасля ў ІЧУ Жодзіна. Малодшага брата Віталя **Міколу** затрымалі ў Маладзечне падчас ланцуга салідарнасці 19 чэрвеня.

Ніжэй размяшчаем разважанне Віталя Алейніка. Вы можаце даслаць свае меркаванні на пошту **regionnews@rh.by**.

### Беларусь: адукацыя трымаецца на касцяку энтузіястаў

Сёння ў свеце разгарнулася сапраўдная вайна за мазгі. Попыт на людзей з адукацыяй, прадпрымальнікаў, навукоўцаў каласальны: розныя краіны канкуруюць паміж сабой за лепшыя кадры. Для гэтага ствараюць найбольш спрыяльныя бытавыя, рэгулятарныя і фінансавыя ўмовы для прыцягнення інтэлектуальнага патэнцыялу. Прычына на паверхні. Для разумення досыць параўнаць дзве лічбы: рыначная капіталізацыя адной з найбуйнейшых энергетычных кампаній свету «Газпром» складае каля 74 мільярдаў долараў і ўтрымлівае 450 тысяч супрацоўнікаў. А вядучую тэхналагічную глабальную карпарацыю Apple Inc. рынак ацэньвае ў больш чым два трыльёны долараў, прытым што ў кампаніі 150 тысяч супрацоўнікаў.

Можна канстатаваць, што ў Беларусі за апошнія 26 гадоў сістэма адукацыі падверглася такому шоку, што фактычна апынулася на мяжы развалу. Паводле даследавання Global Public Policy Institute, у апошнія гады Індэкс акадэмічнай свабоды Беларусі складаў 0,225 па шкале ад 0 да 1, дзе 0 найгоршае, а 1 – найлепшае значэнне. Па дадзеным паказчыку наша краіна апынулася паміж Руандай і Суданам. Зыходзячы з падзей апошніх месяцаў – рэпрэсіі супраць студэнтаў і выкладчыкаў і іншае, – няма сумневаў, што статус «чорнай дзіркі Еўропы» ў сферы адукацыі будзе толькі ўмацоўвацца.

Паступіўшы ў БДПУ імя Максіма Танка па выніках Рэспубліканскай алімпіяды, магу сказаць, што кадравы склад педагагічных установаў нашай краіны перажывае вельмі сур'ёзныя дэфармацыі. Атрымліваецца, што прафесійнымі настаўнікамі хочуць быць альбо людзі, якія сапраўды бачаць у гэтым сваё пакліканне, альбо тыя, хто не бачыць для сябе якіх-небудзь іншых перспектыў. Гэта ўплывае на якасць адукацыі, якую атрымліваюць дзеці: нематываваныя педагогі з мізэрнай зарплатай і пастаянным галаўным болем у выглядзе ўсебаковага адміністрацыйнага ціску проста не могуць якасна і адказна выконваць сваю работу.

У выніку я вырашыў здаць экзамены на факультэт міжнародных эканамічных адносін БДЭУ, дзе адвучыўся адзін год. На мой погляд, за выключэннем некалькіх кірункаў, установы вышэйшай адукацыі ў Беларусі такімі можна назваць вельмі ўмоўна. Хутчэй, па форме і сутнасці навучання іх можна кваліфікаваць як свайго роду каледжы.

> **Першым пытаннем пасля паступлення да мне было: ці ўступіў я ў прафсаюз. Далей гучалі тэмы БПСМ і БРСМ.**

Фатальная незацікаўленасць, безнадзейнасць і фармальная неабходнасць з боку прафесарска-выкладчыцкага складу суправаджала навучальны працэс. Пры гэтым было відавочна, што структура ўніверсітэта як адукацыйнай установы, а не сродак адтэрміноўкі выхаду кадраў на рынак працы, трымаецца выключна за кошт невялікага касцяка энтузіястаў-прафесіяналаў. Яны нягледзячы ні на што штурхаюць гэты механізм наперад і падсілкоўваюць ведамі падапечных.

Такога валанцёрскага патэнцыялу недастаткова для нашай краіны, што адбіваецца на ўзроўні кампетэнтнасці і прафесіяналізму кадраў, якія запаўняюць вакансіі ў дзяржаўных і камерцыйных структурах Беларусі. На жаль, вынікі эканамічнага і сацыяльна-палітычнага развіцця рэспублікі відавочныя, асабліва на фоне суседзяў.

### Масква: заўсёды можна сказаць «не»

Поўную вышэйшую адукацыю атрымліваў ва ўніверсітэце МГІМО ў Маскве. Два дыпломы з адзнакай спецыяліста і бакалаўра ў сферы міжнародных эканамічных адносін. Несумненна, з часоў СССР гэта ВНУ з'яўляецца вядучай на постсавецкай прасторы ў сферы дыпламатыі, міжнароднай эканомікі, паліталогіі, журналістыкі і іншых кірункаў. Многія выхадцы з гэтай установы займаюць адказныя пасады ў дзяржаўных органах і пасады ў камерцыйных структурах.

Узровень адукацыі апынуўся на парадак вышэй убачанага мной у Беларусі. Першы час даводзілася начамі наганяць прабелы ў моўнай галіне, у эканамічных прадметах. Я перакананы, што каласальная працаздольнасць, мэтанакіраванасць на вынік і жаданне вырвацца з безнадзейнасці, дзе «нас малоціць кожны, хто ў руках мае цэп», дазваляе нам, беларусам, вельмі хутка дасягаць пастаўленых мэт. І займаць найвышэйшыя пазіцыі ў розных ранжыраваннях, у тым ліку і студэнцкіх. Такімі я бачыў беларускіх студэнтаў у лепшых універсітэтах розных краін.

У маскоўскім універсітэце адразу ж кінулася ў вочы адкрытая

# рывок дзякуючы мазгам

## і Італіі.

дыскусія на лекцыях і семінарах. Намінальна ВНУ ведамасная, што накладвае пэўны адбітак, але я мог свабодна падымаць розныя пытанні і абмяркоўваць сваю пазіцыю па той ці іншай тэме. Даводзілася сустракаць розныя ідэалагічныя аспекты, але ўзровень адкрытасці дыскусіі значна вышэйшы за той, што бачыў у беларускіх ВНУ. Да прыкладу, я мог свабодна запытацца падчас гасцявой лекцыі ў дзяржсакратара ЗША **Мадлен Олбрайт** пра «апошнюю дыктатуру Еўропы» і атрымаць разгорнуты адказ.

> **У святле апошніх падзей палітычны фактар, вядома, накладвае адбітак і на гэты ўніверсітэт, але магчымасць адкрыта адказаць «не» застаецца і ў выкладчыкаў, і ў студэнтаў.**

Характэрным з’яўляецца падтрыманне ўніверсітэтам розных студэнцкіх клубаў і ініцыятыў: нацыянальных асацыяцый, бізнес-інкубатараў, навуковых супольнасцяў. Падтрымку ўніверсітэту аказвае важкі Эндаўмент – фінансавая падушка ВНУ. На базе ўніверсітэта праводзяць сустрэчы з вядомымі палітыкамі, эканамістамі, навукоўцамі. Студэнты маюць магчымасць прыняць удзел у такіх мерапрыемствах, як Мадэль ААН. Асобныя ініцыятывы беларускіх ВНУ, вядома, не ідуць ні ў якое параўнанне – гэта прадмет для сур’ёзнай і глыбокай працы. На жаль, раскрыццё патэнцыялу студэнтаў сёння ідавочна не канёк нашай адукацыйнай сістэмы.

### Польшча: студэнт сам шукае адказы і вучыцца задаваць пытанні

Я таксама меў магчымасць атрымаць досвед навучання ў двух польскіх універсітэтах: Szkola Glowna Handlowa ў Варшаве і Wyzsza Szkola Biznesu – National Louis University ў горадзе Новы Сонч. Адукацыйны падыход у гэтых двух універсітэтах быў заснаваны цалкам на дыскусіі: выкладчык не суха чытаў лекцыю, а ініцыяваў паўнавартаснае абмеркаванне заяўленых пытанняў на аснове той базы, якую даваў, матэрыялаў, якія рэкамендаваў, а таксама дадатковых крыніц, якія студэнты маглі выкарыстоўваць самі.

На мой погляд, у сучасных умовах сутнасць адукацыі і зводзіцца да таго, каб навучыць людзей самім шукаць адказы на пытанні, выкарыстоўваць багатыя рэсурсы і крыніцы. Выкладчык не павінны казаць, што правільна, а што не – з дапамогай пытанняў і абмеркаванняў студэнт сам павінны прыйсці да адказу, а пазней і навучыцца сам задаваць правільныя пытанні.

Зручныя кампусы, магчымасць мець зносіны з выкладчыкам 24/7 праз інтэрнэт або за кубкам кавы ў кавярні, магчымасць самому выбіраць прадметы – тое, да чаго беларускім ВНУ неабходна імкнуцца. У сучасным адукацыйным свеце няма месца ашалелай прапагандзе, звязанню студэнтаў па руках і нагах з дапамогай абмежавання акадэмічнай свабоды і права на выказванне меркавання і нават пратэст. Не кажучы ўжо апошнія месяцы пра абуральную беларускую практыку затрыманняў, збіцця, арышту і адлічэнняў нашай моладзі. Гэта не мае ніякага дачынення да адукацыі.

Асобнай перавагай ВНУ Польшчы з’яўляецца ўдзел у Балонскім працэсе, доступ студэнтаў да праграмы абмену Erasmus. Гэта дае магчымасць моладзі не толькі падарожнічаць, але і знаёміцца з іншымі культурамі і ўсталёўваць больш цесныя знаёмствы і сувязі для далейшага жыцця і працы.

> **Я быў уражаны тым, што часта сустракаліся студэнты з розных краін Еўропы, якім па 40-50 гадоў і якія з вялікай цікавасцю вывучалі пэўныя дысцыпліны, імкнучыся альбо ўдасканаліць свае веды, альбо ўвогуле змяніць профіль.**

У Беларусі канцэпцыі адукацыі ў розным узросце папросту няма, што выклікае вялізныя праблемы ў людзей, якія трацяць кваліфікацыю ў святле тэхналогій і бізнес-падыходаў, якія імкліва развіваюцца. Не забяспечваючы людзям магчымасць на актуалізацыю адукацыі ў адпаведнасці з рыначнымі рэаліямі праз дзяржпадтрымку, дзяржава выракае людзей на рабства з мізэрнымі заробкамі, маніпулюе неканкурэнтаздольнымі людзьмі на рынку працы. Гэта сур’ёзна тармозіць развіццё эканомікі краіны ў цэлым.

### Італія: выкладалі прадстаўнікі буйных еўрапейскіх кампаній

Дадатковую бізнес-адукацыю я атрымліваў у Італіі. Па выніках гадавога навучання па праграме банкаўскай справы і прадпрымальніцтва пры фондзе Cassamarca мне была прысуджаная ступень Master in Banking and Entrepreneurship. Аналагаў падобных праграм у Беларусі няма, у сувязі з чым параўноўваць немагчыма.

Я навучаўся ў групе каля 30 чалавек з самых розных краін Еўропы. Выкладанне вялі прафесары з аўтарытэтных еўрапейскіх універсітэтаў. Акадэмічны курс быў выключна прыкладным: бізнес-кейсы вырашаліся пад кіраўніцтвам прадстаўнікоў буйных еўрапейскіх кампаній, студэнтам давалася магчымасць наведаць прадпрыемствы і вывучыць пытанні вытворчасці і маркетынгу знутры, практыку з напісаннем дыпломнай працы студэнты таксама праходзілі непасрэдна на працоўных месцах прадпрыемстваў.

Гэта каласальны досвед, у рамках якога можна было сумяшчаць тэарэтычныя і практычныя навыкі ў ходзе ўсяго працэсу навучання. Узаемадзеянне са студэнтамі з розных краін дазваляла бліжэй зразумець культуру людзей, іх бізнес-падыходы і мысленне, абмяняцца ідэямі і закласці падмурак для далейшага супрацоўніцтва і сяброўства. У гэтым напрамку Беларусі трэба прайсці велізарны шлях, стаўшы больш адкрытай краінай як мага хутчэй.

> **З уласнага досведу магу сказаць, што людзям з самых розных дзяржаў Еўропы вельмі цікавая наша terra incognita, але прававы і палітычны дэфолт вельмі палохае нашых еўрапейскіх сяброў.**

У той час, як многія краіны прымаюць спецыяльныя праграмы, заахвочваюць вяртанне суайчыннікаў з міжнароднымі дыпломамі на радзіму, у Беларусі ўжо даўно быў узяты курс на выцісканне любых людзей з актыўнай пазіцыяй з краіны. Па словах уладных асоб, «гэта лішнія людзі ў нашай краіне», «острокопытные», для якіх трэба рабіць «лагеры для адсялення». У такім становішчы, несумненна, прафесіяналам з адукацыяй і досведам працы ў аўтарытэтных установах матывацыі ехаць на радзіму няма: як той казаў, «няма дурных».

На адным з судоў я спрабаваў выклікаць аўтара гэтых наватарстваў з лагерамі **Мікалая Карпянкова** для апытання па ўдакладненні яго пазіцыі па шэрагу пытанняў, але адвагі абавязаць яго з’явіцца ў суд у суддзі не хапіла. Пры гэтым мы чуем ад кіраўніцтва краіны пра тое, што «я даручыў ураду. У бліжэйшы час будуць прынятыя меры аб непрызнанні дыпломаў, атрыманых за мяжой». Такім чынам, складанасці ў людзей з замежнай адукацыяй толькі павялічваюцца.

> **Пры гэтым неабходна адзначыць, што сапраўды каштоўныя кадры ў цывілізаваных краінах звычайна запрашаюць на працу, нягледзячы ні на якія дакументальныя фармальнасці.**

Гэта значыць, што ў людзей з міжнароднымі дыпломамі досыць вялікі выбар прапаноў у розных краінах – і выбар на карысць якой-небудзь кампаніі ў Беларусі, для якой дыпломнае пытанне праблемнае, ідавочна будзе вельмі і вельмі невідавочным. Ні адзін разумны чалавек не паедзе працаваць у краіну, дзе гавораць, што яму «прамылі мазгі, а потым падкінулі як пятую калону».

### Я заўсёды верыў у сваю краіну

Што тычыцца мяне, я разам з сям’ёй быў з тых, хто заўсёды верыў у сваю краіну і па атрыманні адукацыі і вялізнага досведу ў вядучых кампаніях вяртаўся ў Беларусь. У сілу спецыяльнасці ў фінансавай галіне, для мяне няма сумневаў, што ў нашай краіны ёсць значныя перспектывы па прыцягненні вельмі сур’ёзных інвестыцый для таго, каб зрабіць эканамічны рывок і паспрабаваць дагнаць з бягучага застою нашых суседзяў у самыя кароткія тэрміны.

> **Для людзей з фінансавай індустрыі сёння вельмі смешна і сумна бачыць, як урад спрабуе хоць неяк прыцягнуць сотню-другую мільёнаў долараў у якасці абавязку, у той час як ёсць усе магчымасці прыцягваць мільярды долараў у якасці прамых інвестыцый у нашы кампаніі і праекты.**

Прафесійным спецыялістам вельмі цяжка глядзець на бягучы ўзровень некампетэнтнасці ў намінальным кіраўніцтве краіны, якое з кожным днём адкідвае развіццё Беларусі ўсё далей.

На жаль, на бягучы момант адбываецца беспрэцэдэнтны адток высокакваліфікаваных кадраў з нашай краіны. Сёння ў розных краінах Еўропы, у гарадах Амерыкі і Расіі я фізічна адчуваю наплыў нашых людзей: хтосьці з’язджае-ляціць з краіны афіцыйна, хтосьці проста бяжыць і не аглядваецца. Пераноc офісаў альбо стварэнне дадатковых прадстаўніцтваў з пераездам супрацоўнікаў з Беларусі, флагманаў нашай IT сферы (Panda Doc, EPAM, Wargaming і іншыя), з’яўляецца ключавым паказчыкам незваротнай уцечкі мазгоў з краіны. Па дадзеных BEROC Policy Paper Series, каля 48% IT-фірмаў разглядаюць ці ўжо займаюцца пераездам супрацоўнікаў з Беларусі.

Мне незразумела, як я магу займацца прыцягненнем інвестыцый у краіну, калі я вымушаны вывучаць з нуля КаАП, ПВКаАП, КК і КПК РБ, праходзіць рэабілітацыю пасля збіцця замест таго, каб працаваць над інвестыцыйнымі мемарандумамі, размаўляць з партнёрамі аб структураванні прыцягнутага фінансавання ў нашу краіну. Мне незразумела, як я магу адпускаць сваю сям’ю шпацыраваць каля дома, калі каля пясочніцы, у якой гуляюць мае дзеці, бегаюць людзі ў чорным са стрэльбамі, а дзеці абмяркоўваюць знойдзеныя каля арэляў рэшткі шумавой гранаты.

Мне незразумела, як я магу адпраўляць дзяцей вучыцца ў школу, у дырэктара якой няма часу абмеркаваць са мной якасць адукацыі ў яе ўстанове, адказаць на пытанне, чаму ў яе школе няма кодэкса этычных паводзін настаўнікаў, растлумачыць, чаму ў дзіцячай установе на ўваходзе мяне сустракаюць прусакі – у мяне не хапае скідак для сумлення адпраўляць дзяцей туды, дзе дзіця навучаць, як падрабляць дакументы, як ездзіць са схаванымі нумарамі па горадзе ў мэтах прапаганды.

> **Мне незразумела, чаму мой бацька, узгадаваўшы сотні прафесійных музыкантаў за сваю шматгадовую кар’еру, які аддаў усё сваё жыццё людзям і дзяржаве, апублікаваў унікальную працу «Ружа край дубровы», атрымлівае капейкі ў якасці так званай пенсіі.**

Як пры такіх умовах мы можам прыцягваць спецыялістаў з так патрэбнымі нам кваліфікацыяй і досведам, пытанне рытарычнае.

Але пры ўсім пры гэтым адзначу, што ўсе мы з тымі самымі замежнымі дыпломамі, хто верыць у нашу краіну, абавязкова вывучым КаАП, ПВКаАП, КК і КПК РБ, знойдзем спосабы, не важна з дапамогай якой юрысдыкцыі, навучыць прававой адукацыі тых, для каго цяпер «не час для законаў», і абавязкова пачнём і працягнем працу па прывядзенні Беларусі ў парадак, чаго заслугоўвае кожная еўрапейская краіна.




Фота Настассі УТКІНАЙ

По інфармацыі Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, з-за пандэміі з'явіліся парушэнні ў паслугах па планаванні сям'і. Гэта праявілася ў мільёнах незапланаваных цяжарнасцяў.

# Як дзве хвалі каронавіруса паўплывалі на працу ў розных прафесіях

**Як паўплывалі першая і другая хвалі каронавіруса на працу людзей у розных сферах? Якія выклікі і праблемы з'явіліся? Ці знайшліся шляхі вырашэння? Пра гэта мы паразмаўлялі з жыхарамі рэгіёна.**

### Ларыса, настаўніца: Працуем у масках, адмянілі экскурсіі

Ларыса працуе настаўніцай у адной са школ Маладзечанскага раёна. Кажа, каронавірус паўплываў на працу педагогаў як падчас першай хвалі, так і падчас другой:

– Яшчэ на пачатку першай хвалі была запланаваная экскурсія з вучнямі. З-за пандэміі прыйшлося адмяніць. З таго часу і да сёння экскурсіі не аднаўлялі. У мінулым навучальным годзе некаторыя вучні не наведвалі школу, вучыліся дома ўсю апошнюю чвэрць. Ужо тады былі першыя выпадкі хваробы сярод настаўнікаў.

Увосень новы навучальны год пачалі, як звычайна. Цяпер усе вучні наведваюць школу, дома ніхто не навучаецца. Але ў лістападзе і снежні вучні пачалі масава хварэць. Падчас другой хвалі на кавід хварэлі таксама і настаўнікі. Ніякага каранціну не ўводзілі. Настаўнікі працуюць у масках. Метадычныя нарады праходзяць анлайн. Агульнашкольныя мерапрыемствы не праводзім. А настаўніцкі калектыў працуе ў звычайным рэжыме.

### Алена Крэйніс, гаспадыня прытулку для жывёл: Даглядалі сабак, гаспадары якіх хварэлі

Ужо некалькі год **Алена** з мужам **Ігарам** трымаюць прытулак для жывёл у Валожынскім раёне. Алена кажа, што другая хваля на дзейнасці прытулку практычна ніяк не адбілася. А вось падчас першай хвалі здарыўся такі выпадак:

– У нас на передтрымцы былі сабакі з Мінска, у гаспадароў якіх медыкі падазравалі каронавірус. Пакуль рабіліся тэсты, людзі сышлі на самаізаляцыю. Сталі актыўна шукаць передтрымку для сваіх сабак, бо прадбачылі шпіталізацыю. Усе, каму тэлефанавалі, адмаўляліся. Хаця сабакі не з'яўляюцца пераносчыкам хваробы і самі не хварэюць.

По словах Алены, ім гаспадары тэлефанавалі ў роспачы, літаральна са слязьмі. У выніку Крэйнісы забралі двух пародзістых сабак. У прытулку на Валожыншчыне сталічныя гадаванцы былі тры тыдні. У выніку дыягназ пацвердзіўся ў трох членаў з сям'і гаспадароў: бацькоў і аднаго з двух дзяцей.

– Пасля хваробы гаспадары самі прыязджалі забіраць гадаванцаў, расказвалі пра ўсю сур'ёзнасць віруса, папярэджвалі нас, каб бераглі сябе. Ну, і дзякавалі, канешне, – дзеліцца Алена.

### Ларыса, вядучая свят: Урачыстасці часам адмяняюць, але я не губляю аптымізму

Вядучая свят, скрыпачка **Ларыса** з Маладзечна, адкрыла сваю справу незадоўга да пачатку першай хвалі. Паспяхова правяла наваголднія карпаратывы і...

– Вось у мяне адкрытае ІП, ёсць апаратура і жаданне працаваць. А тут – каронавірус. Але я не пашкадавала, што пачала сваю справу. Вясна для вядучых заўсёды не вельмі актыўная. З задавальненнем бавіла час з сям'ёй, займалася творчасцю. Ведала: у мяне яшчэ ўсё наперадзе. І сапраўды, летам людзі, якія з-за каронавіруса адкладалі вяселлі і юбілеі, пачалі іх спраўляць, – дзеліцца з карэспандэнтам Ларыса.

Адзначае, што падчас другой хвалі наваголднія карпаратывы былі нешматлікія, але працы ўсё роўна хапала. Бліжэй да канца зімы актывізаваліся жаніхі з нявестамі. Цяпер яны плануюць вяселлі на вясну і лета, цікавяцца паслугамі, заключаюць дамовы. Усе спадзяюцца на лепшае, адзначае Ларыса. Тым больш, многія з тых, хто звяртаецца, ужо перахварэлі цэлымі сем'ямі.

Ёсць тэндэнцыя скарачэння гасцей на ўрачыстасці. Здараецца, што запланаванае свята ўвогуле адмяняюць з-за хваробы юбіляра або каго-небудзь з гасцей.

– Але ў цэлым я настроеная аптымістычна. Не губляю часу: пашыраю рэпертуар, рыхтую цікавую праграму да новага сезона.

### Марыя, сеткавы менеджар: Бізнес ратуюць драўляныя цацкі

Марыя працуе дома. Як сеткавы менеджар прадае праз інтэрнэт драўляныя вырабы ад адной расійскай фабрыкі.

– Нам не пашанцавала, бо наш галоўны прадукт – турыстычны сувенір, – пачынае Марыя. – У першую хвалю продажы абваліліся, і адразу было вельмі цяжка. Але мы надалі больш увагі сваёй лінейцы цацак і пачалі спрабаваць новыя варыянты продажу – праз інтэрнэт-пляцоўкі. Драўляныя цацкі робім і прадаём самыя розныя: ад экалагічных лялек да сортэраў, што ствараюцца па сістэме італьянскага доктара і педагога **Марыі Мантэсоры**.

Да другой хвалі кампанія падышла ўжо з набытым досведам:

– Таму спакойна працягвалі працу, уносячы карэктывы па неабходнасці. Свет ужо крыху прывык да новых абставін, таму стала лягчэй дамаўляцца па лагістыцы і тэрмінах. Працягнулі развіваць новыя напрамкі, якія намацалі яшчэ ў першую хвалю. Па-ранейшаму больш увагі надаём вытворчасці цацак, акрамя звычайнай працы з оптам разгарнуліся на гандлёвых пляцоўках у інтэрнэце. Усё яшчэ не проста, але вельмі цікава адказваць на выклікі часу.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Эксперты расказалі, як каронавірус уплывае на псіхіку і жаночае здароўе

**Эксперты Сусветнай арганізацыі аховы здароўя падчас зум-канферэнцыі для журналістаў расказалі пра тое, як вірус уплывае на псіхічны стан і жаночае здароўе.**

Па словах доктара, каардынатара праграм па грамадскай ахове здароўя офіса СААЗ у Беларусі **Валянціна Русовіча**, уплыў каронавіруса на псіхічнае здароўе людзей праяўляецца ў наступным:

- страх захварэць і памерці;
- страх заразіцца падчас звароту да дактароў і як вынік – людзі не звяртаюцца да медыкаў;
- адчуванне бездапаможнасці ў абароне блізкіх і страх іх страціць;
- успрыманне сімптомаў іншых хвароб за сімптомы каронавіруса;
- павелічэнне ўжывання алкаголю, псіхаактыўных рэчываў.

### Як абараніць сваё псіхічнае здароўе?

- Прызнаць негатыўныя эмоцыі;
- быць на сувязі з сябрамі і сям'ёй;
- падтрымліваць здаровы лад жыцця – правільнае харчаванне, фізічныя практыкаванні, адмовіцца ад курэння і алкаголю ці хаця б скараціць іх ужыванне;
- атрымліваць інфармацыю пра дзеянні і меры засцярогі з надзейных крыніц, на пэўны час скарацiць чытанне кепскіх навін.

Доктар **Мэры Элунед Гафілд** з Дэпартамента сэксуальнага і рэпрадуктыўнага здароўя і даследаванняў СААЗ адзначыла, што не варта зніжаць узровень кансультавання па пытаннях цяжарнасці і планавання сям'і, а па магчымасці перавесці кансультацыі ў анлайн-фармат.

Па яе словах, у пандэмію на 10% знізіўся ахоп паслуг для жанчын падчас цяжарнасці і паслуг для нованароджаных. Па ацэнках СААЗ, з пандэміяй у статыстыку дадалося 28 тысяч мацярынскіх смерцяў і 168 тысяч смерцяў немаўлят.

З'явіліся парушэнні ў паслугах па планаванні сям'і. Па ацэнках СААЗ, гэта праявілася ў мільёнах незапланаваных цяжарнасцяў.

### Што павінны рабіць мы, а што – сістэма аховы здароўя

Спецыяльны прадстаўнік рэгіянальнага дырэктара СААЗ у Беларусі доктар **Масурд Дара** расказаў пра тое, якія санітарныя меры падчас пандэміі каронавіруса павінна прымаць сістэма аховы здароўя, а якія – мы з вамі.

Санітарныя мерапрыемствы, агучаныя экспертам, вядомыя большасці з нас. Гэта:

- гігіена рук;
- рэспіраторная гігіена;
- фізічная дыстанцыяванне;
- скарачэнне перасоўванняў, аддаленая праца, лічбавыя зносіны;
- рэгулярная ачыстка і дэзынфекцыя навакольнага асяроддзя;
- ранняе выяўленне хвароб.

Як павінна рэагаваць сістэма аховы здароўя на выклікі COVID-19? Масурд Дара адзначае наступныя пункты:

- надзейная сістэма нагляду;
- развітая лабараторная сетка, стратэгіі хуткага і эфектыўнага тэставання;
- абарона і падтрымка медыкаў, ахова іх псіхічнага здароўя;
- якасная клінічная дапамога,назіранне дома, інтэнсіўная тэрапія;
- вакцынацыя;
- камунікацыі і абазнанасць грамадскасці;
- вялікая ўвага да фактараў, якія абумоўліваюць высокую смяротнасць;
- падрыхтаванасць да наступнай або спадарожнай пандэміі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




## Як зберагчы здароўе дзякуючы харчаванню

**Падчас пандэміі COVID-19 вельмі важна харчавацца здаровай ежай. Рацыён можа ўплываць на здольнасць арганізма супрацьстаяць інфекцыі, змагацца з ёй і аднаўляцца ў выпадку перанесенай хваробы.**

Сама па сабе ежа і харчовыя дадаткі не могуць абараніць ад COVID-19 або вылечыць захворванне. Але здаровае харчаванне неабходнае для падтрымання функцый імуннай сістэмы. Акрамя таго, збалансаваны рацыён дазваляе зменшыць верагоднасць узнікнення іншых расстройстваў, у тым ліку атлусценне, захворванні сэрца, дыябет і некаторыя віды раку.

Здаровае харчаванне для дзяцей груднога ўзросту – гэта выключна груднoе малако ў першыя шэсць месяцаў з паступовым увядзеннем бяспечных харчовых прадуктаў у дадатак да матчынага малака з шасці месяцаў да двух гадоў і больш. Дзецям ранняга ўзросту здаровае і збалансаванае харчаванне неабходнае для росту і развіцця арганізма.

### Ешце разнастайна, у тым ліку садавіну і гародніну

- Кожны дзень варта ўжываць у ежу сумесь з натуральных злакаў, такіх як пшаніца, кукуруза і рыс. Бабовыя, напрыклад, сачавіцу і фасолю. Дастатковую колькасць свежых садавіны і агародніны і прадукты жывёльнага паходжання, напрыклад, мяса, рыбу, яйкі і малако.
- Па магчымасці неабходна выбіраць крупы з неапрацаваных зярнят, напрыклад, з кукурузы, проса, аўса, пшаніцы і бурага рысу. Яны багатыя каштоўнай клятчаткай і спрыяюць доўгаму захаванню пачуцця сытасці.
- Для перакусу на працягу дня пападыдуць свежыя гародніна, садавіна і несалёныя арэхі.

### Менш солі

- Варта абмежаваць спажыванне солі да пяці грамаў у дзень. Гэта адна чайная лыжка.
- Не перасольвайце гатовыя стравы і ежу ў час прыгатавання. Старайцеся радзей выкарыстоўваць салёныя соусы і прыправы, напрыклад, соевы соус, рыбны соус ці соус на аснове булёну.
- Калі ўжываеце ў ежу кансервы або сушаную прадукцыю, старайцеся выбіраць прыгатаваную з гародніны, арэхаў або садавіны без солі або цукру.
- Прыбярыце са стала сальніцу і паспрабуйце дадаваць для смаку свежую або сушаную зеляніну і спецыі.
- Правярайце ўтрыманне солі ў набытай прадукцыі і аддавайце перавагу ежы з нізкім утрыманнем натрыю.

### Менш тлушчу

- Гатуючы ежу, аддавайце перавагу аліўкаваму, соеваму, сланечнікаваму або кукурузнаму алею.
- Аддавайце перавагу белым гатункам мяса, напрыклад, мясу птушкі і рыбы. Утрыманне тлушчу ў іх звычайна ніжэйшае, чым у мясе чырвоных гатункаў. Зразайце з мяса тлушчавую праслойку і старайцеся пазбягаць ужывання мясных паўфабрыкатаў.
- Малако і малочныя прадукты павінны быць абястлушчанымі або з паніжаным утрыманнем тлушчу.
- Пазбягайце выпечкі, смажаных і перапрацаваных прадуктаў, у якіх ёсць транстлушчы прамысловай вытворчасці.
- Імкніцеся гатаваць ежу на пары або варыць, а не смажыць.

### Менш цукру

- Паспрабуйце абмежаваць спажыванне ласункаў, а таксама салодкіх напояў, напрыклад, газіраванай вады, фруктовых сокаў і напояў на аснове соку.
- Замест прысмакаў, такіх як печыва, тарты і шакалад, выбірайце свежую садавіну. Калі вы ўсё ж аддаяце перавагу дэсертам, варта падбіраць такія, у якіх няшмат цукру, і есці невялікімі порцыямі.
- Менш карміце дзяцей прадуктамі з цукрам. Соль і цукар не варта дадаваць у прыкорм для дзяцей да двух гадоў.

### Больш вады

Для аптымальнага функцыянавання арганізма неабходна сачыць за дастатковым паступленнем вадкасці. Вада з-пад крана, калі яна бяспечная для піцця і даступная, з'яўляецца самым патрэбным і недарагім напоем.

**Паводле паведамлення Сусветнай арганізацыі аховы здароўя.**

Фота t.me/isloch.

Аляксей Шалашнікаў («Іслач») з мячом, за ім бяжыць Леанід Ковель («Смаргонь»).

# «Смаргонь» саступіла ў другім матчы вышэйшай лігі

**19 сакавіка «Смаргонь» пад кіраўніцтвам Вячаслава Герашчанкі саступіла ў другім матчы вышэйшай лігі. Цяпер смаргонцы займаюць перадапошні радок у турнірнай табліцы.**

Матч прайшоў у Мінску, смаргонцы былі ў гасцях. Гульня павінна была пачацца ў 20:45, але з-за снегападу пачатак сустрэчы адклалі на паўгадзіны. Гэты час супрацоўнікі стадыёна ФК «Мінск» чысцілі поле ад снегу.

У першай палове сустрэчы са складу «Іслачы» адзначыўся капітан **Дзмітры Камароўскі**. Футбалісты «Іслачы» доўга насядалі ў штрафной зоне «Смаргоні», а Камароўскі скарыстаўся выпадкам: атрымаў пас ад **Дзмітрыя Юсава**, падпрацаваў мяч нагамі і дакладна прабіў у «дзявятку».

Другі момант у «Іслачы» ўзнік ужо ў другім тайме. Смаргонцы атакавалі саперніка, але футбалісты «Іслачы» перахапілі мяч, хутка перайшлі ў контратаку.

**Уладзіслаў Кабора** сфоліў на **Антону Кавалёву**: зачапіў рукой саперніка, а той упаў. Рэферы назначылі пенальці. Камароўскі прабіў дакладна ў ніжні правы кут.

**«Іслач» 2:0 «Смаргонь»**

Для «Іслачы» гэта другая перамога ў бягучым сезоне. Каманда займае першы радок з шасцю ачкамі. Падапечныя Герашчанкі не змаглі ў другім матчы сезона ўзяць неабходныя тры ачкі. Такім чынам, смаргонскі клуб пакуль застаецца без перамог на перадапошнім месцы ў табліцы. Ніжэй – толькі рэчыцкі «Спадарожнік».


Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Кудзін ужо два месяцы знаходзіцца пад вартай у Расіі

**Аляксея Кудзіна** затрымалі расійскія сілавікі 21 студзеня ў доме сябра пад Масквой. 22 студзеня Дамадзедаўскі суд Маскоўскай вобласці арыштаваў маладзечанскага адзінаборца на два месяцы.

10 лютага Генпракуратура Беларусі накіравала расійскім калегам просьбу аб выдачы Аляксея Кудзіна. 12 лютага Упаўнаважаны па правах чалавека ў Расіі звярнуўся ў органы, каб Кудзіна прызналі бежанцам альбо далі палітычны прытулак.

18 сакавіка расійскі журналіст **Аляксандр Люцікаў** напісаў, што меру стрымання працягнулі некалькі тыдняў таму, бо Кудзін прасіў аб прытулку ў Расіі. Мера стрымання можа быць зменена пасля разгляду просьбы адзінаборцы.

Аляксея Кудзіна абвінавачваюць па артыкуле 364 КК «Гвалт або пагроза прымянення гвалту ў адносінах да супрацоўніка органаў унутраных спраў». 10 жніўня 2020 года Кудзін нібыта збіў двух супрацоўнікаў Маладзечанскага РАУС падчас пратэстаў супраць фальсіфікацыі выбараў.

**Настасся УТКІНА.**

## Маладзечанскі баксёр Асанаў расказаў пра памерлага Мікіту Крыўцова

17 сакавіка маладзечанскі баксёр **Дзмітры Асанаў** даў інтэрв'ю журналісту «Трыбуны» **Аляксандру Івуліну**. Асанаў расказаў, што асабіста ведаў Мікіту Крыўцова, якога знайшлі мёртвым у лесапаласе ў Мінску ў жніўні 2020 года.

Асанаву паведамілі інфармацыю пра смерць Крыўцова сябры з Маладзечна.

– Я чытаю і не веру. Не веру, што такое магчыма. Маладзечна – гэта горад невялікі, усе адзін аднаго ведаюць. Мікіта займаўся футболам, хадзіў на бокс. Мы разам былі ў дзіцячым лагеры. Канешне, мы ведалі адзін аднаго.

Асанаў сказаў, што быў у шоку, калі даведаўся пра смерць Мікіты Крыўцова.

– Усе ведаюць, што ён усіх называў «малы». Няважна, колькі табе год. У Маладзечне мы неяк ішлі, а толькі матч закончыўся. Чую, крык. Фанаты, страшна ж. Я іду, азіраючыся. А ён мне: «Малы, ды не бойся ты!».

У той жа дзень, 17 сакавіка, Следчы камітэт паведаміў, што скончылі праверку па факце смерці Мікіты Крыўцова. Смерць Крыўцова, як сцвярджае прэс-служба СК, паказвае на суіцыд.

**Паводле Youtube-канала Аляксандра Івуліна.**

## Каманды другой лігі чэмпіянату Беларусі пратэстуюць

Федэрацыя футбола Беларусі прыняла рашэнне аб'яднаць другую лігу і чэмпіянаты абласцей у адно спаборніцтва. Каманды, што гулялі ў мінулым годзе ў другой лізе, выказваюцца супраць такога рашэння і напісалі адкрыты ліст федэрацыі.

Па інфармацыі партала Football.by, пад лістом падпісаліся 10 з 19 камандаў, якія выступалі летась у другой лізе.

**Паводле Football.by.**

## Фазылаў і Кашко падпісалі кантракты з «Астраўцом»

Паўабаронцы **Аліхан Фазылаў** і **Ягор Кашко** ў новым сезоне будуць гуляць у складзе «Астраўца».

Фазылаў у мінулым сезоне гуляў за «Слонім» і «Нафтан». Кашко перайшоў з «Энергетыка-БДУ», у якім згуляў за дубль 29 матчаў і забіў 2 галы.

**Паводле Football.by.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
3. Збудаванне для пад'ёму ўзроўню вады ў рацэ.
4. Ход развіцця.
5. Пачуццё пачцівасці.
6. Не лічачыся з перашкодамі, не разбіраючы шляху.
7. Каля 12 тысяч год да нашай эры гэта жывёліна стала першай дамашняй.
10. Навука пра рэчывы, іх будову, састаў, уласцівасці і ўзаемныя пераўтварэнні.
11. Злучыць, змацаваць край адзення пры дапамозе засцежкі.
12. Грэчаскі архітэктар Эўпалані пабудаваў штосьці знакамітае на востраве Самас. Але некаторыя лічаць, што Эўпалані не быў першым, і такі аб'ект ужо існаваў у Ерусаліме.
17. Пазбаўлены здольнасці гаварыць.
19. Невялікі прадмет круглай формы.
20. Густая салодкая маса з працёртых ягадаў або фруктаў, звараных з цукрам.
21. Пэўная колькасць выбуховага рэчыва, шроту, карцечы, якая змяшчаецца ў снарадзе, патроне, стрэльбе.
22. Сумесь руды, флюсаў, коксу, вугалю, узятых у пэўных колькасных адносінах, якую загружаюць у плавільныя печы для перапрацоўкі.
23. Разарэнне чаго-небудзь.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Дзейнасць, учынак, вартыя павагі, высокай ацэнкі.
2. Злучацца, збліжацца, утвараючы адзінае цэлае.
6. Бесцырымонны, бессаромны.
7. Прафесар і вучоны ў галінах эканомікі, сельскай гаспадаркі і геаграфіі, арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Расстраляны ў 1938 годзе. Дамагаўся пераўтварэння Інбелкульта ў Акадэмію навук Беларусі.
8. Выхаваўчая ўстанова для дзяцей да трох гадоў.
9. Афіцыйнае пасяджэнне.
13. Дадаткова, у дадатак да таго, што было або што ёсць.
14. Утвараць глухія гукі, якія нагадваюць доўгі гук.
15. Металічныя звёны, якія прымацоўваюцца да рамянёў аброці і служаць для закілзвання каня.
16. Уразіць незвычайнасцю.
17. Сукупнасць прадметаў аднолькавага прызначэння.
18. Месца, прыгоднае або прыстасаванае для пераправы.
22. Металічны стрыжань, які выкарыстоўваецца як састаўная частка многіх інструментаў, механізмаў, канструкцыі.
24. Найчасцей на дзяржаўных сімвалах сустракаецца яго выява.

## Адказы на крыжаванку з №12

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Латушка. 3. Барбароса. 5. Зімянін. 9. Характар. 10. Мельнік. 12. Шчака. 14. Шчэпка. 17. Сіні. 18. Хрызаліт. 20. Каровы. 21. Штопар. 22. Хамут.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Хліпкі. 4. Шырата. 6. Ладан. 7. Гараскоп. 8. Медзь. 11. Лекар. 12. Шынка. 13. Характво. 15. Утаптаць. 16. Міліцыя. 18. Хвіліны. 19. Лактоза.

## ● ГАРАСКОП НА 26 САКАВІКА – 1 КРАСАВІКА



**АВЕН.** Да новых спраў прыступайце ў панядзелак ці ў аўторак пасля абеду. Перыяд будзе актыўны, багаты на навіны, кантакты і цікавыя прапановы. Прыйдзецца паспяваць на ўсіх франтах.



**ЦЯЛЕЦ.** Інтуіцыя будзе працаваць выдатна. З'явіцца магчымасць палепшыць фінансавыя справы, нешта выгадна прадаць або набыць. Добра пойдзе ўсё тое, што паляпшае ўмовы жыцця і дапамагае стварыць камфорт і ўтульнасць. У нядзелю выканайце свае абяцанні блізкім.



**БЛІЗНЯТЫ.** Спрыяльны перыяд для кар'еры, доўгатэрміновых здзелак, новых спраў, якімі вы збіраецеся займацца працяглы час. У сераду сцеражыцеся дзеянняў нядобразычліўцаў за сваёй спіной. З праблемамі старайцеся разбірацца хутка.



**РАК.** Сакавік – той час, калі нешта важнае ў вашым жыцці прыходзіць здалёк. Заводзьце знаёмствы, абмяркоўвайце супрацоўніцтва. У пятніцу і суботу не думайце пра мінулае і будучыню, застаcomponentsвайцеся ў цяперашнім момане.



**ЛЕЎ.** Рыхтуйце свае лепшыя ўборы – вас чакае шмат публічных мерапрыемстваў. Не адседжвайцеся ўбаку, прымайце ўдзел у нарадах і абмеркаваннях. Рыхтуйцеся да важных падзей у асабістым жыцці.



**ДЗЕВА.** Знойдзецца час для адпачынку і асабістых захапленняў. Усё, што звязана з замежнымі кантактамі, пакупкамі праз інтэрнэт, плануйце на чацвер. Пятніца і субота запатрабуюць вашай прысутнасці ў розных месцах. Старайцеся зрабіць шмат, але ўлічыце, што ёсць верагоднасць падману.



**ШАЛІ.** У панядзелак карысна заняцца арганізацыйнымі мерапрыемствамі, абмеркаваць з партнёрамі бягучыя цяжкасці. Вас чакаюць навіны ад братоў і сясцёр або іншых сваякоў. Магчымыя агульныя сямейныя справы.



**СКАРПІЁН.** Скарпіёны на гэтым тыдні могуць зрабіць вялікую справу, зрушыць ляжачы камень. Вашы новыя ідэі атрымаюць падтрымку блізкіх. Вакол вас будуць хадзіць на дыбачках. У выхадныя пошук інфармацыі адкрые вам больш таямніц, чым вы разлічвалі.



**СТРАЛЕЦ.** У пятніцу і суботу вас могуць падвесці партнёры. Магчымыя падман, здрады, нечаканыя дзеянні за вашай спіной. Вы можаце сабе дазволіць нестандартныя рашэнні. Сіла на вашым баку. Прыслухоўвайцеся да стваральных парываў.



**КАЗЯРОГ.** Самы час прымаць адказныя рашэнні і будаваць жыццё па-новаму. Зоркі спрыяюць пераменам, і ў вас з'явяцца людзі, гатовыя аказаць падтрымку. У асабістых адносінах можаце сутыкнуцца з фатальнымі абставінамі. У суботу ідзіце па пакупкі.



**ВАДАЛЕЙ.** Тыдзень палепшыць вашы фінансавыя перспектывы, але вам трэба рацыянальна падысці да выдаткаў і адчуваць менш ілюзій у дачыненні да рэчаў, якія набываеце. Нядзелю прысвяціце навядзенню парадку на сваёй жыццёвай тэрыторыі.



**РЫБЫ.** Вы на грэбені хвалі. Тыдзень абяцае ўдачу ў грашовых справах. Асабліва паспяховымі будуць творчая дзейнасць, хобі, дызайн. Не забывайце адпачываць і забяспечваць свайму арганізму ўсё неабходнае.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 8 | 9 | 5 | |
| | 2 | 7 | | | | 6 | | 1 |
| 4 | 9 | 5 | | | | 3 | | |
| | 8 | 4 | | | 7 | 5 | | |
| 1 | | | 5 | | 9 | | | |
| | | | 1 | 4 | 3 | | | |
| 6 | | 8 | | | 2 | | | |
| | | 3 | | | | 1 | 2 | |
| | 4 | | 7 | | 6 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# Рэгіянальная газета. Rh.by




## Краязнаўца Алесь Юркойць – на волі

**24 сакавіка пра гэта нам паведаміў сам Алесь Юркойць.**

– Яшчэ толькі пару гадзін, як вольны. Еду дамоў. «Рэгіянальную газету» чытаў рэгулярна. Мне яе выпісвалі. Гатовы з вамі супрацоўнічаць, толькі разбяру свае архівы.

Нагадаем, што астравецкі краязнаўца Алесь Юркойць быў асуджаны на сем гадоў зняволення. Ён належаў да той групы з чатырох ашмянскіх мытнікаў, якія не прызналі віны і даказвалі, што яны не бралі хабар.

Справа пачалася вясной 2015 года. Былі затрыманыя некалькі дзясяткаў супрацоўнікаў пункта пропуску «Каменны Лог». Інфармацыя аб справе была агучаная Лукашэнкам на сустрэчы з кіраўніцтвам Мытнага камітэта. У дачыненні да мытнікаў тады завялі пяць крымінальных спраў, а злачынная група, паводле версіі следства, налічвала 58 чалавек.

Алесь Юркойць адседзеў шэсць год, бо адзін год скарацілі па амністыі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота Сяргея ГУДЗІЛІНА.



## Чытайце праз тыдзень:

- За апошні час з краіны выехала нямала беларусаў. У чым прычына іх перасялення і ці магчымае вяртанне? Што кажуць эксперты пра хвалю міграцыі.

## 27 сакавіка, субота

**Вецер:** паўднёва-ўсходні, 2-3 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература -9,5°С у 2001 годзе
Максімальная тэмпература +16,3°С у 2015 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 10 мм у 1981 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Грэйцеся вясновым сонейкам і навінамі «Рэгіянальнай газеты»!

**Каб быць у курсе навін рэгіёна, чытаць жыццёвыя гісторыі і кожны тыдзень даведвацца нешта новае пра мінулае нашага Павілля, вам не трэба будзе хадзіць па «Рэгіянальную газету» штопятніцы, каб купляць у розніцы.**

**Газету з аб'ектыўнай інфармацыяй на роднай мове прынясуць у паштовую скрыню.**

### Падпісацца на «РГ» можна заўжды:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Зарэгіструйцеся на сайце **belpost.by.** У асабістым кабінеце карыстальніка дадайце ваш адрас, а пасля зайдзіце ў акно «Інтэрнэт-падпіска», абярыце «Да каталогу». У акне «Пошук па выданнях» увядзіце назву нашай газеты ці індэкс 63212. Цісніце на спасылку «Рэгіянальная газеты», якая з'явіцца. Або адсканіруйце QR-код.



У меню абярыце індывідуальную ці ведамасную падпіску, перыяд выпіскі выдання.

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі**, рублёў:

- на месяц – 5.19 / 3.86 (з дастаўкай на адрас падпісчыка / на абаненцкую скрыню або да запатрабавання),
- на квартал – 15.57/11.58.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 16.99 / 15.39,
- на квартал – 50.97 / 46.17.

**ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Ці лёгка знайсці працу ў Маладзечне?



**Надзея:**
– Мне чамусьці здаецца, што не вельмі. Асабліва па музычнай адукацыі. Я музыкант, на жаль, не жыву цяпер у Беларусі, але бачу, што гэта цяжка.



**Арцём:**
– Цяжка. Заробак сярэдні вельмі нізкі. Я думаю, што каля 500 рублёў.



**Ганна:**
– Вакансіі ёсць, але не заўсёды падыходзяць па ўзроўню адукацыі, які ёсць у мяне. Працу па прафесіі крыху цяжкавата знайсці. Аднак гледзячы для каго. Магчыма, шмат вакансій ёсць у сферы абслугоўвання.



**Аляксандр:**
– Вельмі цяжка. Я – мантажнік, будаўнічая спецыяльнасць, з вялікім досведам. Працую ў Мінску па прыватных заказах.



**Віктар:**
– Цяжка. Да 40 гадоў яшчэ, напэўна, чакаюць. А пасля 40 гадоў ніхто і нідзе нікога не чакае. У свой час скончыў Беларускі політэхнічны інстытут, я – інжынер-механік. Ужо пенсіянер, а з пенсіянерамі зусім не размаўляюць.



**Юры:**
– Калі захочаш, то знойдзеш заўсёды. Спецыяльнасцяў хапае. Калі захочаш зарабіць, то заробіш. Ці задавальняе мой заробак? Так-сяк, не скажу, каб вельмі, але хапае.



**Наталля:**
– Не. Мая маці – прадавец. Заробкі маленькія, шукаць працу цяжка. Пакуль я ў дэкрэтным, а пасля буду штосьці шукаць.

**Аддзел інфармацыі.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№13 (1352) 26.03.2021. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 504. Падпісана ў друк у 9.00 25.03.2021.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.